ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 9 (2640) • Пятніца, 2 сакавіка 1973 года • Цана 8 кап.







ІДЗЕ рашаючы, трэці год дзевятай пяцігодкі...

Кожны дзень прыносіць весткі аб новых здзяйсненнях нашай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры.

Зусім нядаўна цудоўны падарунак атрымалі слаўныя хімікі Беларускага Палесся, рабочыя і служачыя Светлагорскага завода штучнага валакна, усе жыхары горада Светлагорска. Пабудаваны новы палац культуры, які па сваіх магчымасцях здольны стаць сапраўдным апорным пунктам культурнага жыцця не толькі Светлагорска, але і ўсяго раёна.

На гэтых здымках вы бачыце сам будынак, яго інтэр'еры, людзей, якія прыйшлі на адкрыццё палаца.

Рэпартаж пра першыя дні работы палаца — на стар. 12—13.

Фота Ул. КРУКА.





# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

**26 лютага ў Мінску адбыўся IX Пленум Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі.**

**На пленум былі запрошаны першыя сакратары гаркомаў і райкомаў партыі, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, сакратары абкомаў партыі і намеснікі старшынь аблвыканкомаў, якія ведаюць пытаннямі прамысловасці, транспарту і будаўніцтва, сакратары партыйных камітэтаў на правах райкомаў партыі, старшыні БРК прафсаюзаў, старшыні абласных планавых камісій, дырэктары навукова-даследчых інстытутаў і раду прамысловых прадпрыемстваў.**

**Пленум ЦК КПБ абмеркаваў пытанне «Аб ходзе выканання рашэнняў XXIV з'езда КПСС і ўказанняў снежаньскага (1972 г.) Пленума ЦК КПСС па павышэнню эфектыўнасці прамысловай вытворчасці і задачах партыйных арганізацый рэспублікі». З дакладам выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў.**

**У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел: І. Я. Палякоў—першы сакратар Мінскага абкома КПБ, С. М. Шабашоў—першы сакратар Віцебскага абкома КПБ, Г. А. Крыулін—першы сакратар Магілёўскага абкома КПБ, У. А. Белы—віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, В. А. Гвоздзеў—першы сакратар Гомельскага абкома КПБ, У. А. Ляпёшкін—другі сакратар Мінскага гаркома КПБ, В. П. Булава—прадзільшчыца Баранавіцкага баваўнянага камбіната, П. І. Байкоў —генеральны дырэктар Мінскага вытворчага трактарабудаўнічага аб'яднання, Р. Ф. Фамічоў—старшыня Гродзенскага аблвыканкома, І. М. Глазкоў—генеральны дырэктар навукова-вытворчага аб'яднання, М. С. Конанава—міністр лёгкай прамысловасці БССР, П. Л. Коханаў—намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржплана рэспублікі, Я. М. Чайка—сакратар Брэсцкага абкома КПБ, А. А. Рэут—дырэктар Мінскага завода электронных вылічальных машын імя Р. К. Арджанікідзе, Л. Ф. Роганаў—першы сакратар Аршанскага гаркома КПБ.**

**З заключным словам выступіў таварыш П. М. Машэраў.**

**Пленум ЦК КПБ разгледзеў і адобрыў сацыялістычныя абавязацельствы працоўных Беларускай ССР на 1973 год. Адобрана таксама прапанова аб уступленні працоўных рэспублікі ў сацыялістычнае спаборніцтва з працоўнымі Літоўскай ССР.**

**Пленум заслухаў інфармацыю загадчыка сельскагаспадарчага аддзела ЦК КПБ М. А. Сухій «Аб ходзе будаўніцтва і выкарыстання торфапляцовак для нарыхтоўкі тарфакрошкі на ўгнаенне», а таксама тлумачэнні па гэтаму пытанню старшыні Магілёўскага аблвыканкома В. К. Луцкіна.**

**Па разгледжаных пытаннях пленум прыняў адпаведныя пастановы.**

**У рабоце пленума ЦК КП Беларусі прынялі ўдзел загадчык сектара сельскагаспадарчага аддзела ЦК КПСС В. Д. Калабаеў, інструктары ЦК КПСС М. Н. Акулаў і Р. Х. Шыляеў.**

**Дзевяты пленум ЦК КП Беларусі закончыў работу.**

# ГЕРОІ ЗАСТАЮЦЦА З НАМІ

У дні, калі працоўныя Чэхаславакіі святкавалі 25-ю гадавіну сацыялістычнага ладу, гасцямі Беларусі былі чэшскія кінематаграфісты на чале з дырэктарам Браціслаўскай студыі мастацкіх фільмаў «Каліба» Штэфанам Малічэкам.

У Мінску, у кінатэатры «Партызан», адбылася прэм'ера фільма «Заўтра будзе позна» сумеснай вытворчасці кінастудый «Беларусьфільм» і «Каліба». Стужка прысвечана нацыянальнаму герою славацкага народа, Герою Савецкага Саюза Яну Налепку.

Гасцей вітаў намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі П. Жукоўскі. Са словам у адказ выступіў галоўны драматург студыі вядомы славацкі пісьменнік Мілаш Крно.

На прэм'еры прысутнічалі намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела ЦК КПБ С. В. Марцалеў, міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, сакратар Мінскага гаркома КПБ Т. Ц. Дзмітрыева.

Прагляд фільма адбыўся таксама ў Маскве, у Дзяржкіно СССР. Пасля прэм'еры была арганізавана прэс-канферэнцыя, на якой перад журналістамі выступілі чэшскія кінематаграфісты.

З поспехам прайшла прэм'ера і ў маскоўскім кінатэатры «Мір».

# ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ— БУДАЎНІК КАМУНІЗМУ

Задачы Саюза кінематаграфістаў БССР у святле Пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі» абмеркаваў 28 лютага пленум праўлення гэтага творчага саюза.

З дакладам на пленуме выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі У. В. Мацвееў.

Дзеячы беларускага кіно — рэжысёры, аператары, драматургі, крытыкі—горача адобрылі Пастанову ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі», якая з'яўляецца яркім сведчаннем пастаянных клопатаў Камуністычнай партыі аб росце кінамастацтва, павышэнні яго ролі ў камуністычным выхаванні народа. Выступаўшыя падвергнулі крытычнаму разбору недахопы ў рабоце творчага саюза.

Галоўную ўвагу работнікаў кіно пленум сканцэнтраваў на распрацоўцы тэм сучаснасці, глыбокім раскрыцці характараў і лёсу сапраўдных герояў нашага часу — будаўнікоў камунізму.

У рабоце пленума прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР У. В. Манахаў, першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. П. Шамякін, маскоўскі кінадраматург І. В. Балгарын, намеснік рэдактара часопіса «Искусство кино» А. Н. Мядзведзеў.

БЕЛТА.

Справаздача з пленума — у адным з наступных нумароў газеты.



На здымку—група ўдзельнікаў пленума: сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР, рэжысёр І. Дабралюбаў, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР, лаўрэат Ленінскай прэміі У. Манахаў, кандыдат мастацтвазнаўства, кінакрытык В. Нячай, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР У. Цяслюк.

Фота Ул. КРУКА.

# ТВОРЧЫ ВЕЧАР

28 лютага ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР справаздачу перад чытачамі і літаратурнай грамадскасцю трымаў паэт і перакладчык Ніл Гілевіч.

Залу запоўнілі шматлікія прыхільнікі яго таленту і аматары роднага слова — рабочая моладзь, студэнты, сябры і паплечнікі паэта. Вечар адкрыла Вера Палтаран. З уступным словам выступіў Віктар Каваленка.

На вечары прагучала шмат вершаў паэта. Іх дэкламавалі выкладчык педагагічнага інстытута імя Горкага Андрэй Каляда, — заслужаныя артысты рэспублікі Рыма Маленчанка і Павел Дубашынскі, артысты Анатоль Мазлоўскі і Віктар Труновіч.

Затым, выступіў Ніл Гілевіч. Ён падзяліўся сваімі думкамі аб паэзіі, прачытаў новыя творы, пераклады.

Ул. АНІСКОВІЧ.

# ЗАГАРТАВАНЫ РЭВАЛЮЦЫЯЙ

Проза Максіма Гарэцкага, пісьменніка і публіцыста, блізкая і дарагая сённяшнім чытачам. Не выпадкова, што вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня яго нараджэння, які адбыўся ў Саюзе пісьменнікаў, сабралася шмат прыхільнікаў яркага, самабытнага таленту. Адкрыў вечар Аляксей Кулакоўскі. Са словам пра М. Гарэцкага выступіў кандыдат філалагічных навук Дзмітрый Бугаёў.

Успамінамі пра пісьменніка і роздумам аб яго творчасці падзяліліся брат М. Гарэцкага акадэмік АН БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Г. І. Гарэцкі, Юрка Гаўрук, Алесь Якімовіч, Барыс Сачанка, Міхась Мушынскі.

На вечары былі прачытаны апавяданні пісьменніка, выступілі артысты Мінска.

# ПРЭМ'ЕРА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ АДБЫЛАСЯ Ў КАЗАХСТАНЕ

Каля месяца знаходзіўся на гастролях у Казахстане вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры». Беларускія музыканты былі цёпла прыняты слухачамі Алма-Аты, Караганды і іншых гарадоў рэспублікі. Яны першымі пачулі новую работу калектыву — беларускую народную песню «Перапёлачка» ў апрацоўцы кіраўніка ансамбля У. Мулявіна.

А. КІТАЕЎ.

# МЕДАЛЬ ІМЯ ПАПОВА— ЗА СПЕКТАКЛЬ «ТРЫБУНАЛ»

*Названы імёны першых уладальнікаў медаля імя народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР А. Д. Папова, зацверджанага Саветам Міністраў СССР як узнагарода майстрам тэатра за стварэнне лепшых спектакляў на гераіка-патрыятычную тэму.*

*Залаты медаль прысуджаны народнаму артысту СССР А. А. Папову — галоўнаму рэжысёру Цэнтральнага тэатра Савецкай Арміі.*

*Сярод тых, хто атрымаў сярэбраныя медалі, — народная артыстка БССР Г. Макарава, заслужаны артыст БССР Г. Аўсянікаў, рэжысёр Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы В. Раеўскі. Узнагародай адзначаны іх удзел у стварэнні спектакля тэатра імя Янкі Купалы «Трыбунал».*

# У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Адбыўся справаздачна-выбарчы сход секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР. Са справаздачным дакладам выступіў старшыня секцыі Д. Бугаёў.

У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел М. Мушынскі, М. Арочка, В. Мыслівец, П. Дзюбайла, М. Барсток, І. Шамякін.

Абрана бюро секцыі ў складзе: Д. Бугаёў (старшыня), А. Гардзіцкі (намеснік старшыні), В. Бечык (сакратар), С. Андраюк, М. Барсток, П. Дзюбайла, В. Жураўлёў, В. Каваленка, В. Палтаран, Р. Шкраба.

# СЯБРОЎСТВА

Даўняя дружба звязвае слухачоў ваенна-інжынернага радыё-тэхнічнага вучылішча з рабочымі і служачымі Мінскага камвольнага камбіната.

На гэтым тыдні слухачы вучылішча віталі на сваёй сцэне вогненную «Лявоніху», вясёлых «Скамарохаў на Палессі», гарэзлівую «Польку-віцяблянку» і іншыя танцы, якія паказаў калектыў народнага ансамбля танца «Зорка» палаца культуры камвольнага камбіната.

Цёпла быў прыняты і сымбальны ансамбль «Заранка», лаўрэат Усесаюзнага тэлевізійнага конкурсу, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР. Пра майстэрства і высокую культуру калектыву сведчыць той факт, што ён рэкамендаваны для удзелу ў X Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Берліне.

Праз некалькі дзён удзельнікі самадзейнасці вучылішча выступілі перад сваімі сябрамі—стваральнікамі цудоўных тканін.

Але дружба праяўляецца не толькі ў такіх сустрэчах. Рабочыя і студэнты едуць адзін да аднаго, каб расказаць пра сваё жыццё, падзяліцца думкамі, пабываць у цэхах, лабараторыях, аўдыторыях.

Пятрусь БРОЎКА

## МЫ ДЗЕЦІ ЎСЕ АДЗІНАЙ МАЦІ...

*Гады праходзяць за гадамі*
*У бурных дзеях на зямлі...*
*Нямала зроблена і намі.*
*І чуецца: «...Вось мы былі!..»*

*Канечне, кожны на рабоце,*
*Сябе дарэшты аддаваў,*
*Канечне, мы былі на ўзлёце*
*І ў самым пекле розных спраў.*

*Канечне, мы недасыпалі*
*І ў хлебе елі мы асцё.*
*Крыві нямала пралівалі,*
*Ахвяравалі і жыццё.*

*Канечне, з нас былі героі,*
*Адолеўшыя час цяжкі,*
*Затое бачылі такое,*
*Чаго не бачылі вякі.*

*Зрабілі мы ў сваёй Радзіме,*
*Што скрозь прасторы расцвілі,*
*Але нашто прад маладымі,*
*Хваліцца нам: «Вось мы былі!..»*

*Яшчэ нясконччана дарога,*
*І прад нябачаным стаім.*
*Канечне, мы стварылі многа,*
*Ды хопіць спраў і маладым.*

*І, гарту поўная, адвагі,*
*Сказаць нам можа маладосць,—*
*З пашанай, з добраю павагай:*
*— Так, вы былі... Мы ж сёння ёсць!*

*І гэта так. Яны аддана*
*Кладуць сягоння ў Заўтра шлях,*
*І праўда, варта толькі глянуць —*
*Які узлёт, які размах!*

*У цаліну жыццё ўдыхнулі,*
*Партыйны здзейсніўшы наказ,*
*Яны і ў космас сiганулі,*
*Наш герб паклаўшы аж на Марс.*

*Яны за доследамі тымі,*
*З адкрыццяў верай у вачах,*
*І за ракетамі такімі,*
*Што нашым ворагам на страх.*

*Ах, як з іх кожны ганарыцца,*
*Што можа край абараніць!..*
*Навошта ж гэтак нам дзяліцца,*
*Хто што зрабіў, каму рабіць?..*

*Мы творым жа адно багацце,*
*Хай час усім і выпаў свой,*
*Мы дзеці ўсе адзінай маці*
*І ўсе мы роўна любы ёй!*

1972.

## А Я ЧАКАЮ...

*Зіма, зіма... Вятры над гаем,*
*Шляхі снягамі замятае,*
*А я тых дзён, тых дрэў чакаю,*
*Як зашуміць зялёны строй*
*Між вішань з белаю фатой.*

*Ды ім не вечна красавацца,*
*І стануць кветкі асыпацца,*
*Я ж пажадаю дні пабачыць,*
*Калі ўсё поле ў каласах,*
*Куды ні пойдзеш — хлебны пах.*

*Ды песня жнійная спяецца*
*І зерне зберацца, звязецца,*
*Мне ж тыя дні — усцешаць сэрца,*
*Калі галіны гне пажар!*
*Нам несучы свой шчодры дар.*

*Ды кінуць неба Беларусі*
*Шпакі і жураўы і гусі,*
*А я пабачыць зноў памкнуся*
*І першы, быццам пух, сняжок,*
*І першы, быццам шкло, лядок.*

*Нязменна дням жыцця мяняцца*
*І людзям з імі сустракацца,*
*І будзе лісце асыпацца,*
*І зноўку вішні зацвітуць...*
*Ды нам юнацтва не вярнуць.*

1972.

## ПРЫХОДЗІЦЬ РАНІЦА Ў АКНО...

*Вясной, амаль што кожны дзень*
*Прыходзіць гэтак да мяне —*
*Праскочыць праз акно прамень*
*І разбяжыцца па сцяне...*

*На міг малінавым святлом*
*Ён на падстоллі заіскрыць,*
*То ўспыхне светлым матылём,*
*То здасца — крыллем зашуміць.*

*А за сцяной, штораз гучней,*
*Зазвоняць птушак галаскі,*
*Азвецца першым верабей,*
*За ім разыдуцца шпакі —*

*А там і ўвесь крылаты хор —*
*І спеў, і тлум, і грай, і свіст...*
*А там затахкаў і матор,*
*Паплыў у поле трактарыст.*

*А там і паравоз, якраз*
*Дадаў сімфонію гудкоў,*
*А там загуў з цыстэрнай МАЗ,*
*Павёзшы з фермы малако.*

*А там кансервавы завод*
*Падаў гудок свой, паравы...*
*А там загуў і самалёт*
*З-пад Мінска ажно да Масквы.*

*А змоўк матор. З палёў чуваць —*
*З дзяўчат, хлапцоў хтосьці заспяваў...*
*Ну дзе там, хіба можна спаць?*
*І я, ўсхапіўшыся, устаў!*

XII. 1972.

## НЕ ВЕР...

*Такі спрадвек закон прыроды:*
*У поўдні — цень найкарацей,*
*А дзень схінецца да заходу*
*І цень, што міг — усё даўжэй.*

*Няйначай волат вырастае,*
*Не менш вярсты да галавы,*
*Твой кожны крок пераступае*
*Так лёгка рэчкі і равы.*

*Мінаеш нівы, агароды,*
*Імпэту не спыніць твайго,*
*Здаецца лес не парашкода,*
*А крок — праскочыш і яго.*

*Ды не ўпівайся асалодай,*
*Дарма, што гэтак кажа зрок,*
*Не вер ты ценю прад заходам,*
*Твой не такі магутны крок!*

1972.

## ЖАДАННІ

*Мы ўсе чагосьці зноў жадаем*
*Вось каб узяў, памаладзеў,*
*Каб сіл з'явілася без краю,*
*Ну, што б я вытварыць хацеў?*

*У асалоду, без прынукі,*
*Было б найлепей гэта так,*
*Каб мне адно — кіёк у рукі,*
*На плечы рэчавы рукзак.*

*Каб стрэцца з месцінамі тымі,*
*Дзе шмат нязведаных шляхоў,*
*Раней за ўсё сваёй Радзімы*
*Куточак кожны б абышоў.*

*Што аднаму і ў добрай хаце*
*Малы, малы куточак свой,*
*Прастор — усё маё багацце,*
*Маё натхненне, воблік мой.*

*Хадзіў бы я сабе паволі,*
*(З людзьмі памарыш, папяеш...)*
*Красы пазнаў бы значна болей,*
*Ды і сяброў, відаць, не менш!*

1973.



Шляхі-дарогі, сустрэчы-расставанні!.. Колькі іх у жыцці паэта, імя якога добра вядома і малым і дарослым. На гэты раз П. Броўка — госць лагойскіх школьнікаў.

Фота М. ЦЕЛЯКА.

## АРУ ДЛЯ ЎСІХ...

*Няўжо яно было такое,*
*Святло з лучыны, з камінкоў?*
*Прайшлі часы перада мною*
*Сахі драўлянай і цапоў.*

*Больш за паўвеку, як сустрэлі*
*І сталі мы на новы шлях,*
*Шырэла поле, мы дужэлі*
*І распраўляліся ў плячах.*

*Мы сталлю новы час падкулі,*
*Пусцілі ў ход электра, газ,*
*А што ўжо думкай сiганулі,*
*Дык за Юпітэр і за Марс...*

*Нам трэба гэтак, а няйначай,*
*Бо першымі мы мусім быць,*
*Я рады, што навокал бачу*
*Людзей, што й сілы не злічыць.*

*Ды я і сам, нібы са сталі,*
*Наш час складаней год былых,*
*Сабе дзяды й бацькі аралі,*
*А я сабе —*
*І дзеля ўсіх!*

1972.

## НАВАСЁЛ

Как будто
пришел
к социализму в гости...
Ул. МАЯКОЎСКІ.

*Як ненадзівіцца Антон,*
*Нібы зямля не тая.*
*Глядзіць, ўзышоўшы на балкон,—*
*Іначай выглядае.*

*Нібы шырэй у гэты час*
*Такі разлёт адчуўся,*
*Да небасхілу аж калгас*
*Ягоны разгарнуўся.*

*А вунь і лес і луг відзён,*
*Дзе пасвіць свой ён статак,*
*І задаволены Антон —*
*Нічога сабе хата.*

*Кватэру званым пастухом*
*Запрацаваў аддана —*
*На тры паверхні новы дом,*
*Вышэйшы, чым быў у пана.*

*Ці мог падумаць ён калі*
*Аб гэтакім прасторы?..*
*Яшчэ маячыць удалі*
*Ягоны панадворак,—*

*Што пры дарозе, ля сасны,*
*Сваімі ўзвёў рукамі.—*
*Малая хатка ў два вакны,*
*Паветка з хлеўчукамі.*

*І лазня, дзе ён печку склаў,*
*Зрабіў карыта з дубу,*
*І той асвер, што, як жураў,*
*Застыў з даўжэзнай дзюбай.*

*Ён там пражыў час доўгі свой*
*І знаюць ўсе — нягожа.*
*Але, як сёння, дык такой,*
*Не ведаў ён раскошы.—*

*Жыві сабе, не знай пакут,*
*Адно — працуй старанна —*
*У тры пакоі новы кут,*
*Ды да таго ж і з ваннай.*

*Малы кружочак толькі зруш,*
*Струмень ды адмысловы —*
*Цялёнкайся, а хочаш — душ,*
*Як дождждычак ліпнёвы.*

*'А трэ',— мачалкай так і сяк*
*Ты можаш шаравацца...*
*Шкада, што венічкам ніяк*
*Там нельга пахвастацца.*

*Цяпер, у гэтыя гады*
*І парыцца не кожны,*
*Але, каб толькі той бяды,*
*Без веніка жыць можна.*

*Затое ў трубах ёсць цяпло,*
*А трэба прахалода,*
*А ў вокнах сонейка, святло,*
*Кватэра — асалода!*

*А ўранку, каб на працы быў,*
*Дык радыё гукала...*
*Не, так ніколі ён не жыў,*
*Пастух Антон Гурала.*

1972.

## ЛЮДСКОЕ СЭРЦА

*У сэрцы нашым шмат прастору,*
*Яго не змерыць сотняй міль,*
*Людское сэрца, быццам мора,*
*У ім бывае шторм і штыль...*

*Без душ сяброўскіх жыць не можа,*
*Між імі ззяе, як маяк...*
*А буйны вецер растрывожа,*
*Не супакоіцца ніяк.*

*Ну што ж, у ім адценняў многа,*
*Калі б не ціша, не вятры,*
*Яно б не вабіла нікога,*
*І хутка б згасла, без пары.*

1972.

## РАЗМОВА З ЭЛЬБРУСАМ

*Больш сорак год, як бачуць вочы,*
*Цябе ў праменнай вышыні,*
*І я, Эльбрус, табе зайздрошчу —*
*Што не змяніўся ты ані.*

*Магутнаму, такое сілы,*
*Што ўзрос плячамі аж да зор —*
*Ды, як зямля цябе стварыла,*
*Срабрыстага, між чорных гор?*
*Я, пастарэўшы, пасівелы,*
*Зноў рады гаварыць з табой,*
*Ты ж, як раней, крыштальна-белы,*
*З нязменна гордай галавой.*

*Ты, як маяк, між чорнай ночы,*
*Далёка бачышся з нізін.*
*І я, Эльбрус, табе зайздрошчу,*
*Ды толькі хіба я адзін?*

1972.

# ЦІКАВАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ

У ВЫДАВЕЦТВЕ «Мастацкая літаратура» выйшла кніга Пятра Шаўцова «Спрадвечнае». Гэта кніга — плён доўгай, складанай і карпатлівай працы. Дваццаць восем год свайго жыцця аддаў Пятро Шаўцоў вывучэнню гісторыі стварэння выдатных помнікаў беларускай літаратуры першай палавіны XIX стагоддзя — паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», гісторыі, якая больш за сто трыццаць год хвалюе літаратуразнаўцаў і даследчыкаў — яны ўпарта б'юцца над разгадкаю таямніцы імя аўтара. За гэты час нарадзілася і знікла мноства легенд, думак, меркаванняў, але загадка да гэтага часу застаецца не раскрытай. Раскрыць жа яе трэба, бо, апрача таго, што гэтыя паэмы з'яўляюцца нашай нацыянальнай гордасцю, «паўней усведамляючы мінуўшчыну, — як пісаў А. І. Герцэн, — мы пазнаём сучаснасць: глыбей пранікаючы ў сэнс былога, раскрываем сэнс будучага; азіраючыся назад, крочым наперад».

Узяўшы ўсё гэта за аснову сваёй працы і змясціўшы такія думкі ў самым пачатку даследавання, Пятро Шаўцоў, такім чынам, адразу завалодаў увагай чытача, прыкаваў яго да кнігі і не адпускае да самага апошняга радка.

Творчыя цяжкасці даследчыка заключаліся ў тым, што ён у сваёй арыгінальнай задуме (абвяржэнне антынавуковых наслаенняў вакол гэтых паэм, развянчанне вульгарна-тэндэнцыйнага, нігілістычнага трактавання іх з пазіцый буржуазна-нацыяналістычнага літаратуразнаўства, наіўнага спрошчвання характару твораў некаторай часткаю сучасных даследчыкаў і ўстанаўленне сапраўднага аўтарства, а хутчэй, подступ для вырашэння гэтай жыватрапетнай праблемы) не меў папярэднікаў і настаўнікаў. Тым больш, што ўся агромністая літаратура, прысвечаная беларускай «Энеідзе навыварат» і «Тарасу на Парнасе», ад самых ранніх выказванняў Л. Кавеліна, Р. Друцкага-Падбярэзскага, Р. Зямкевіча, Л. Васілеўскага, акадэміка Я. Карскага да даследаў сучасных беларускіх гісторыкаў, не кранала лінгвістычных асаблівасцей, этнагеаграфіі і самой творчай гісторыі травестыйных паэм з пункту гледжання падыходу да вырашэння гэтай вечнай і надзённай праблемы: хто ж, нарэшце, быў той паэтычны чарадзей, які падараваў удзячным нашчадкам гэтыя непаўторныя тварэнні беларускай класічнай літаратуры?

Не будзем, аднак, празмерна захапляцца, бо ў «Спрадвечным» пісьменнік толькі «прыступае» да вырашэння праблемы аўтарства паэм, абяцаючы назваць яго імя ў другой кніжцы, якая будзе названа «Сцежкамі паляўнічыка». І слушна робіць, бо амаль за сто пяцьдзесят год іх існавання напластавалася такая агромністая маса антынавуковых і псеўдагістарычных «канцэпцый», што гэтыя «эльбрусы заблуджэнняў і станоўчых поглядаў» самі па сабе ўжо вымагаюць сацыяльна-гістарычнага даследавання, якое грунтавалася б на жыццёвай праўдзе і адпавядала патрабаванням марксісцка-ленінскай метадалогіі.

Пятро Шаўцоў сабраў мноства фактычнага матэрыялу, пачэрпнутага з самых розных крыніц і галін ведаў. Аднак ён не збіваецца на голую факталогію, а, ідучы ад факта, завяршае сваю думку, свае вывады аналізам фактаў, вельмі ўважліва падбірае патрэбны матэрыял, без лішніх воклічаў, памяркоўна разглядае яго. Так, каб зусім слушна і паважна з пункту гледжання аб'ектыўных гістарычных фактаў абвергнуць памылковую версію, быццам аўтарам «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе» з'яўляецца смаленскі абшарнік Вікенцій Равінскі, а такім чынам, і радзіма паэм быццам бы — Смаленшчына, даследчык робіць экскурс у галіну тагачаснага смаленскага дыялекту, тапанімікі (геаграфічных назваў краю) і анамастыкі (асабістых іменаў), і прыходзіць да зусім слушнага, пераканаўчага і пераканаўча даведзенага вываду, што не Смаленская Духаўшчына з'яўляецца радзімай беларускіх паэм, а, наадварот, Магілёўская Клімаўшчына.

Пятро Шаўцоў працягвае далей свае довады на падставе расшыранага аналізу дыялектных асаблівасцей гавораў (засяроджвае ўвагу на гісторыі ўсходне-магілёўскага дыялекту). дакладнага ўстанаўлення назваў мясцовасцей абодвух даследваемых раёнаў, выкарыстоўваючы нават многія статыстычныя дадзеныя аб сацыяльным, нацыянальным і рэлігійным складзе насельніцтва, паколькі гэта мае непасрэднае дачыненне да клімавіцкага паходжання паэм.

Далей Пятро Шаўцоў даказаў, што ні Ігнат Манькоўскі, ні розныя міфічныя калектывы і, тым больш, ні студэнты Горы-Горацкага земляробчага інстытута (які, дарэчы, не існаваў у час напісання паэм) не з'яўляюцца аўтарамі «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе». Вельмі пераканаўча і слушна абвяргаецца і аўтарства Вікенція Равінскага, які, як даказаў даследчык, і не мог быць аўтарам беларускага твора. Цэнтральная думка даследчыка заключаецца ў тым, што творцам гэтых унікальных паэм беларускага слоўнага мастацтва можа быць толькі жыхар усходняй Магілёўшчыны, а больш дакладна — Клімаўшчыны.

Даследчык досыць глыбока і слушна раскрывае ідэйна-эстэтычны змест паэм і іх дзекабрысцкі сацыяльна-палітычны напрамак; гэта — самастойнае адкрыццё Пятра Шаўцова, і менавіта ён першы ў беларускім гістарычным літаратуразнаўстве пускае яго ў навуковы ўжытак.

Адзначым у заключэнне, што пісьменнік дае чытачу цэлую масу «пабочных», калі дазволена так сказаць, быццам бы мімаходам (што ўвогуле характэрна для яго цікавай манеры пісьма), але да месца выкладзеных гістарычных і этнаграфічных, лінгвістычных і эканамічных ведаў, якія арганічна ўводзяць у строй на зладжаную, цэласную архітэктоніку даследавання і паглыбляюць яго агульны змест і літаратуразнаўчы напрамак. Немалое пазнавальнае значэнне маюць публіцыстычныя адступленні аўтара аб гісторыі «Крычаўскага графства», аб уплыве і багаццях у Беларусі ўсясільнага фаварыта Кацярыны II Рыгора Пацёмкіна, аб Булгарыне і многіх іншых. Пятру Шаўцову фактычна належыць прымат устанаўлення радаслоўнай небезвядомага шпіка ў рускай літаратуры пушкінскага перыяду Фадзея Булгарына, абшарніка з Клімаўшчыны і выдаўца рэакцыйнай пецярбургскай «Северной пчелы», а таксама яго начальніка Бенкендорфа, які паходзіў з Краснапольля. Больш пераканаўча даводзіцца гісторыя ганенняў на Мікалая Гогаля з боку Булгарына і ўвогуле ўсёй рускай рэакцыі.

Зусім па-новаму прачытаны самі паэмы і па-новаму вытлумачаны многія словы, радкі і строфы, чаго не зрабіў ні адзін папярэдні даследчык.

Але гэта яшчэ не ўсё. Непасрэдную сувязь з самім сацыяльна-гістарычным зместам «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе» мае аргументаваная размова даследчыка аб нацыянальным і рэлігійным прыгнёце Рэччу Паспалітай праваслаўнага беларускага насельніцтва, аб разбоі езуітаў, якія агнём і жалезам вынішчалі багаты гістарычны плён духоўнай культуры беларускага народа, спальвалі на вогнішчах на гарадскіх плошчах (рукамі каралеўскіх катаў, для большага «эфекту») цэлыя горы беларускіх кніг і рэдкіх манускрыптаў. Гэтая гістарычная фактура, арганічна звязаная з даследаваннем творчай гісторыі паэм, надае працы Пятра Шаўцова навуковую паважнасць, творчую шырыню, філалагічную і грамадска-пазнавальную значнасць.

Даследаванне Пятра Шаўцова напісана да таго ж добрай літаратурнай мовай.

**Сцяпан МАЙХРОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

П. Шаўцоў. «Спрадвечнае». Даследаванне аб часе і месцы напісання «ананімных» паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Мінск, «Мастацкая літаратура», 1973.

**З НАТУРЫ І НЕ ТОЛЬКІ...**

*Сяброўскія шаржы С. ВОЛКАВА.*




**Валянцін Зуб.**



**Міхась Пянкрат.**



**Мікола Ракітны.**

# У ЛАБІРЫНЦЕ ЎЯЎНАЙ ВОБРАЗНАСЦІ

**ЮРЫЙ ЛАКЕРБАЙ — не навічок у літаратуры. Першы зборнік яго вершаў «Эхо родных гор» выйшаў у 1962 годзе. «Лабиринт» — пятая кніга аўтара. У сваёй творчасці ён цікавіцца шырокім колам праблем і тэм. Побач з вершамі аб Абхазіі ў яго нямала хвалюючых радкоў пра Беларусь, якая стала для паэта роднай. Ю. Лакербай вядзе размову аб прызначэнні чалавека на зямлі, услаўляе патрыятызм савецкіх людзей, іх светлыя і добрыя пачуцці.**

«Охотничья колыбельная», «Санчарский перевал», «Разговор с Назымом Хикметом», «Молитва пастора Кинга», «Скрипка Страдивари» — ужо самі назвы вершаў гавораць аб тым, наколькі тэматычна разнастайная новая кніга паэта. Ва ўсіх гэтых творах выразна прасочваецца асоба самога мастака. Голас лірычнага героя—гэта споведзь нашага сучасніка, яго роздум аб жыцці, размова аб праблемах, якія не могуць не хваляваць. Радкі вершаў гучаць публіцыстычна, словы будзяць, непакояць.

Цудоўна піша паэт пра родную Абхазію. «Ответный тост» — так называецца адзін з вершаў. У ім вельмі добра паказаны народныя звычаі.

Жыве ў вершах Ю. Лакербая і памяць аб мінулай вайне. Тут паэт таксама знаходзіць свае мастацкія сродкі, каб расказаць аб перажытым, аб тым, што ніколі не будзе забыта.

...В ядовитом свете луны
С веток падают яблоки черные.
Обожженные яблоки,
чёрные,
На пустые ладони
войны.

«Чёрные яблоки», «пустые ладони войны» — гэтыя эпітэты вельмі выразна перадаюць самую трагедыю.

Поспехі Ю. Лакербая не могуць не радаваць. Гэтаксама як і тое, што паэтычны почырк аўтара ўдасканальваецца, а талент пачынае свяціцца новымі гранямі. І ўсё ж мала ўзяць добрую тэму, трэба яе яшчэ цікава, па-мастацку вырашыць, каб думкі і пачуцці паэта сталі блізкімі і дарагімі чытачу.

Без вобраза — няма верша. Як кожны паэт, тым больш аўтар сталы, Ю. Лакербай, добра ведае цану яркай метафары, трапнаму параўнанню, свежаму эпітэту. Аднак усё павінна быць у меру. Злоўжыванне мастацкімі сродкамі шкодзіць вершу, робіць яго празмерна «прыгожым».

На жаль, у «Лабиринте» паэт часта страчвае пачуццё меры. Ён пачынае думаць і пісаць ускладнёна. Губляецца выразнасць, канкрэтнасць паэтычнага малюнка, з'яўляецца сэнсавая недакладнасць. Прыкладаў такіх у кнізе больш, чым трэба. Ад першай да апошняй старонкі вершы зборніка расквечаны вобразамі, да сэнсу якіх дайсці вельмі і вельмі цяжка. Адчуванне такое, нібы паэт узяў за мэту адно — «здзіўляць» чытача.

Вось як, напрыклад, гаворыць ён пра птушак. «В прохладных селеньях своих из веток, воды и каменьев не чувствует гибели миг пернатое населенье» (стар. 6). У вершы «В апреле» наогул шмат дзіўнага і незразумелага. Чаго варта параўнанне: «как плоды, раскрываю холмы». Аўтарская думка не прасвятляецца і ў канцы верша.

Над ущельем — ореховый дождь.
В черепицу
гремящие
ядра!
Над ущельем — **охотничий нож**(?!).
Разрезающий лозы,
как дратву! —
И в какое жильё **не**(?!) войдешь —
Будто юность вернули обратно...

«Хлещет тысячью копыт» рака (стар. 8), «в сёдлах атаку вершили» (стар. 13), «ливень — вдоль скул и рук», «он **городу** не **ко двору**» (стар. 15) — усё гэта ад жадання сказаць арыгінальна. Аднак яшчэ горш, калі падобная вобразная мудрагелістасць трапляе ў твор суровы і мужны па свайму гучанню. Мажліва. ў такім плане напісаны верш «Памяти Михаила Лакербая». Неяк няёмка чытаць такое: «шутил и ты, но был **на тосты хром.** О родине красиво говорить ты не умел за праздничным столом», альбо: «ты, **подбородком глядя** в потолок, поднялся в небо и свернул на юг». І гэта — пра памёршага чалавека.

Ёсць у Ю. Лакербая два вершы, якія ў зборніку стаяць амаль побач. І «Разрыв», і «Ответ на письмо» аб самым светлым чалавечым пачуцці — каханні... Але не чуваць у іх ні лірычнага прызнання, ні горычы расставання. Аўтар заняты фармальнымі пошукамі, у выніку «Разрыв» стаў вершам аб нічым: лірычны герой бярэ з сабой «и птиц, **с отвагою слепою** уже **рванувшихся** из гнезд за провода, за частоколы в туманы — в **разведенный мел...**» У «Ответе на письмо» дзіўнае само пажаданне лірычнага героя: «побудь в глуши, покуда сможешь, пока **не кончатся дрова**» (?!) Дарэчы — чаго-чаго, а дроў у глухамані павінна хапіць надоўга.

Ю. Лакербай, безумоўна, аўтар здольны. І кніжка «Лабиринт» у пэўным сэнсе сведчыць аб гэтым. Пытанне ставіцца крыху інакш. Талент... Як ён рэалізуецца? З аднаго боку — цікавыя, значныя тэмы,назіранні, актыўна выражаная пазіцыя лірычнага героя, з другога — сапраўдны лабірынт мудрагелістай вобразнасці. Вобразнасць, як самамэта... Трапіўшы ў яе, чытачу вельмі і вельмі нялёгка адтуль выбрацца. «Гудят частоколы трав» (стар. 84), «и выйдут в отставку пустынные ночи» (стар. 68), «не **стаей** летучей **конной** по **дедовским образцам,** на запад тряслись в вагонах отец и парни отца» (стар. 48) **і г. д.**

Так і хочацца сказаць тут, крыху змяніўшы вядомае выказванне,—«Вобраз мой — вораг мой»...

Што ж, здараецца і такое...

**А. БАДРОЎ.**

Ю. Лакербай. «Лабірынт». Кніга вершаў. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1972.

— Вот што, друг, скажы мне такую штуку, ці можна, узарваўшы эшалон, за адзін дзень расцягнуць вярсты дзве рэек? Сам разумееш для чаго.

Лубан думае нядоўга:

— Можна. Трэба людзі, коні, вяроўкі. Гаечныя ключы, лапы.

— Многа?

— У кіламетры на адной нітцы сто рэек. На дзвюх пры дзвюх каляях — васемсот. Можна сцягваць блокамі. Чалавек дзвесце трэба, паўсотні коней. На чатыры чалавекі адзін ключ і лапа.

— Ну, а каб дваццаць кіламетраў расцягнуць?

Лубан усміхнуўся.

— У дзесяць разоў болей людзей і коней.

— Нацэлімся, брат, на дваццаць. Табе вот якое заданне. Выдзелім людзей, навучыш, як і што рабіць. Калі не знойдзем ключоў, будзем толам ірваць рэйкі. Зразумеў?

Бондар размаўляе з Лубанам яшчэ больш, чым Вакуленка, але пра тэхнічны бок аперацыі. На карце ставіць значкі.

Эх, і слаўная пагодка стаіць на Палессі! Надзьмутыя, круглыя шары лазнякоў, вясёлыя светлыя бярэзнікі, бясконцыя абшары разлеглых па жоўтаплёсах, па балотных выспах сасоннікаў проста купаюцца ў моры сонечнага святла і цяпла. Якраз упору на ўраджай лінулі шчодрыя дажджы, усё навокал цвіце, буяе, ірве зямлю.

На зямлі — май сорак трэцяга года. На фронце — зацішша. На Літвінаўшчыне, Дамачоўшчыне, у іншых мясцінах, якія кантралююцца партызанамі, — вялікі людскі рух.

У былыя часы тубыльцы лясных, балотных вёсак ездзілі на кірмашы ў Дамачова, Гарбылі, Бацькавічы. У нядзельныя дні, прастольныя святы валілі ў навакольныя сёлы — у царкву. Лік шматгалосых людскіх зборышчаў намнога павялічыўся пасля рэвалюцыі, асабліва ў калектывізацыю. Вялікія натоўпы запаўнялі ў дзень Першамая, на Кастрычнік сельсавецкія плошчы. Калгаснікі з песнямі, чырвонымі сцягамі рабілі першы выезд у поле, везлі ў раён нарыхтоўку.

У трыццаць восьмым годзе пачалася асушка літвінавіцкіх балот. Тысячы людзей па пояс у вадзе пракладалі магістральныя каналы, калектары. Начавалі на астравах, варылі ў вялікіх чорных катлах кашу—дома не бывалі.

Перад самай вайной на літвінавіцкіх тарфяніках ужо сеялі жыта, ячмень, садзілі бульбу.

Дзіўныя, азораныя подыхам вялікіх перамен часы!..

Але, можа, нават у мірныя бясхмарныя гады не бачыў тутэйшы лясны край прыкладу такога мнагалюддзя, чалавечай дружнасці, еднасці, як у гэты май. Тыдзень носіцца на ўзмыленым чорным жарабцы Вакуленка па вёсках, не злазячы з каня, хрыпата крычыць:

— Слухайце мяне, людзі! Трэба знішчыць чыгунку. Па ёй ездзяць фашысты, а цехніка, для нас цяпер смерць. Успомніце, якія сёлы згарэлі ў агні первыя? Вербічы, Хамякі, Скавароднікі — летась, Чаплічы, Аляксеевічы, Крышаны — сёлета. Тыя, што пры чыгунцы. Скідаем паязды мы, адказваеце — вы. Значыць, мы і вы — тое самае. Народныя парцізаны... Калі хочаце жыць — памагайце...

У Вакуленкі нібы крыллі выраслі. У дыяганалевай гімнасцёрцы, крыж-накрыж перапаясанай рамянямі, сініх кавалерыйскіх штанах, наглянцаваных да бляску хромавых ботах, з пасмамі чорных, непакорных валасоў, якія выбіваюцца з-пад чырвонаармейскай шапкі з зоркай, ён нагадвае бачанага да вайны ў кіно, чамусьці ўжо знаёмага камандзіра грамадзянскай вайны, што нясецца ў атаку паперадзе палка.

Вакуленку ведаюць—слухаюць уважна. Маладыя жанчыны пазіраюць прыхільна, ды і дзяўчаты пасміхаюцца...

Пачалі партызаны.

Ад Гарохавіч да наступнай станцыі Хлуды вялікага лесу няма—так, грыўкі гайкоў, кустоўе, маладыя, раскіданыя па сыпучых пясках пасадкі сасоннікаў. Гэта з правага боку. А з левага наогул толькі сям-там мільгае сярод поля адзінокая старадрэвіна ды разлягаюцца ў лагчынах-балацянках лазовыя зараслі.

Ахова чыгункі небяспеку адчула, падтуліла хвост. Днём яшчэ правандруе па насыпу стары, перахлябісты немец у пары з паліцаем, а ноччу сядзяць па будках, носу не вытыркаюць. Праўда, і эшалоны па гэтай, пазбаўленай прамога ваеннага значэння чыгунцы ідуць не густа. За дзень—два-тры з Гарбылёў на Жлобін ды столькі назад. Заўважана, аднак, што амаль да кожнага таварнага саставу прычапляецца адзін, а то і два пасажырскія вагоны, у якіх едуць нямецкія салдаты і афіцэры. Хто яны, чаму тут раз'язджаюць? Можа, адпускнікі, можа, з тылавой службы?..

Стакілаграмовую фугасную бомбу Лубан з памочнікамі заклаў пад рэйкі ўначы, шнур вывеў у кусты. Тут, у кустах, зборная група з дзесяццю ручнымі кулямётамі, сабранымі ў кулак з трох атрадаў. Месца выгаднае—спуск на закругленні, насып высокі, круты.

Паражняк, які раніцай прагрукатаў з Гарохавіч на Хлуды, прапусцілі. Яшчэ два, гружаныя лесам, прайшлі па суседняй калаі са Жлобіна.

Пад поўдзень ужо. Горача, млосна. Ад доўгага ляжання ў людзей зацяклі рукі, ногі, кружыцца галава. Загадаюць раптам ускочыць, бегчы, а ногі нібы гумавыя. Як пабяжыш? Але ляжаць, чакаюць. Палавіна партызанскага жыцця— такое вось чаканне, нярэдка, як цяпер, на жываце. Пасля вайны добра будзе служыць у пажарнай. Вопыт вялікі. Сярод падрыўнікоў—амаль усе чыгуначнікі. Ім нават глядзець не трэба, які цягнік—гружаны ці паражняк— слыхам чуюць. Тоненька зазвінелі рэйкі. Лубан усё ж прыўзняў з кустоў галаву. Збоку Гарохавіч ледзь прыкметнае воблачка дыму. Дым гусцее, набліжаецца. На бязлесай прасторы цягнік, відаць, прыбаўляе хуткасць. Што ж, прыбаўляй, прыбаўляй, немец! Каб толькі ўзрывальнік не адказаў. Ён ад звычайнай гранаты. Вырваць чаку і ўсё. Шнур драцяны, суцэльны, павінен вытрымаць.

Вунь і ахоўнікі сунуцца. Іх тут не хапала. Сыходзяць на край насыпу, каб прапусціць цягнік. Пастойце, паглядзіце, дарагія! Ужо хутка...

Цягнік на відавоку. Трэба пад чэрава яму, пад самае чэрава!..

Лубан у гэтую хвіліну страшны. Твар ад бяссонніцы чорны, змізарнелы, вочы гараць. Выбраўшы момант, калі паравоз набег на закапаную бомбу, Лубан рыўком, з усяе сілы торгае за шнур і нават не кідаецца на зямлю—стаіць на каленях, глядзіць.

Выбух. Агонь. Відовішча царскае. Паравоз, як наравісты конь, падкідвае зад, куляючыся ляціць у адхон. Вагоны са скрыгатам, трэскам—услед. У апошніх трох хуткасць, аднак, пагашана, скасабочыўшыся, утрымліваюцца на насыпе. Па іх сякуць з кулямётаў...

Тоўсты немчык з паліцэйскім на злом галавы кідаюцца на Хлуды. Толькі падэшвы мільгаюць у паветры. Куды вы, дабрадзеі? Спыніцеся на хвілінку, прыслухайцеся!.. Можа, бегчы не варта...

Ля Хлудоў, ля Гарохавіч тымчасам грыміць. Партызаны пайшлі ў наступ на чыгуначную ахову. Зладжана пачалі канцэрт...

З вагонаў, што ляжаць у адхоне, выбіраецца раптам немец. Стаіць на карачках, затым паволі ўстае, абтрасае мундзір. Нават седлаватую шапку не згубіў. У такога і страляць няёмка. Нехта выпускае, аднак, кароткую чаргу з кулямёта.

Гоман, мітусня, нібы на кірмашы, на абсягу чыгункі, выдзеленым Дамачоўскай брыгадзе. Натоўпы вяскоўцаў перамяшаліся з партызанамі. За рэйку, нібы мурашкі за хрушча, хапаецца дваццаць чалавек. Валакуць скопам пад адхон, скідаюць, бяруцца за другую.

Коней вяскоўцы прыгналі з пастромкамі. Нават крукоў накавалі. Чапляюць рэйку, як барану, цягнуць некалькі гоней, топяць у балоце. Каб сам чорт днём з агнём не знайшоў.

Тут, на чыгунцы, як некалі на лесанарыхтоўках: адны пілуюць, другія тралююць, трэція возяць на склад.

Дзядзькі нават шпалы з насыпу выдзіраюць. Навейшыя спіхваюць пад адхон, старыя складваюць у штабелі, тут жа падпальваюць. Вялізныя дымныя вогнішчы палаюць узбоч чыгункі.

— Іван!—крычыць валюхаваты, мабыць, з год не голены дзядзька.—Кастылёў не раскідай, у кузню забяром. На зуб'е...

— Будзе табе зуб'е. Немцы і твае павыбіваюць.

— Голаму разбой не страшан.

— Каб насып разраўняў, тады б зусім канцы. Не пазнаў бы, што была жалезная дарога.

— Каб яшчэ забаранаваць, ды і грэчку пасеяць. А што ты думаеш,—расла б на пяску.

— Без рэек і так не паедзе. Аман.

— Пачакай, немцы так не папусцяцца. Ці чутае дзела—чыгунку знішчыць.

— Пнём аб саву, савой аб пень—усё адно. Паляць вінаватага і невінаватага...

У вялізным мітуслівым натоўпе ніхто асабліва не камандуе, не загадвае. Ёсць другая сіла, што злучыла, з'яднала ў адно пярэсты, рознагалосы натоўп. Па чыгунцы ездзяць немцы. Яны нясуць смерць.

Гарбылёўцы гайкі не развінчваюць, сякуць рэйкі толам. Так хутчэй. Грыміць выбухамі чыгунка. Гэта, можа, і добра. Немцы не палезуць. Зрэшты, палезці яны не могуць. Ля Хлудоў, Гарохавіч чыгункі няма. Ноччу пастараліся. Бронецягнік не падыдзе. Бронецягнікі па паветры не лятаюць.

Бацькавіцкі атрад увесь на чыгунцы разам з камандзірам Якубоўскім. Перакур. Яўтушык, лежачы жыватом на адхоне, цвіркаючы слінай, расказвае:

— За маёй памяццю сыпалі пуць. У тую вайну. Украінцаў нагналі, бабруйчан. Жалезная дарога добра, але, з другога боку, шкодная. Уга, якія тут былі лясы! Дубы стаялі, як вежы. Два чалавекі рукамі не абхвацяць. У літвінаўскага пана Гарвата кішка стала тонкая, ці мо што носам пачуў. Прыехаў з Варшавы, прадае лес. Купцоў зляцелася, як мух на г... Браты Равіковічы, добра помню, дубы пляжылі. Аднаго звалі Лейба, другога—Хаім. Заплацяць мужыку траячку, а таму што—цягае кражы на станцыю, у Хлуды. Кары—сані такія спецыяльныя рабілі, па шэсцёра коней запрагалі. За два гады лес як карова языком злізала...

Трактарыст Максімчук, які ляжыць побач з Яўтушыкам, дабаўляе:

— У свабоду многа лесу прапала. Пасля рэвалюцыі фактычаскі ніякай уласці не было. Гадоў тры валаклі з лесу хто толькі не ляніўся. Тыны стаўлялі з дубовых колляў...

З-за грэбня далёкіх сасоннікаў нечакана, як злодзей, вынырае нямецкі самалёт. Ляціць нізка, над самай чыгункай. Добра відаць крыжы з белымі разводамі на крылах і на корпусе. Крык, лямант, мітусня. Партызан, вяскоўцаў з насыпу як ветрам змятае. Умомант нібы вымерла ўсё наваколле. Толькі трое коней стаяць, палахліва стрыгуць вушамі. Але вось нехта сцебануў іх пугай, пабеглі, паімчалі коні, цягнучы з сабой вяроўкі з пастронкамі.

Самалёт над другім краем лесу развярнуўся, ляціць узбоч чыгункі, стракочачы з кулямёта. У адказ—лежачы грудзьмі на схіле насыпу, на спіне, партызаны бухаюць з вінтовак. Лётчык, відаць, небяспеку адчуў. Самалёт знікае за лесам і болей не паяўляецца.

Забітых няма, паранены даўгашыі хлопец з Хлудоў. Разарваўшы рукаў сарочкі, медсястра з гарбылёўскага атрада Соня Загаруйка перавязвае яму плячо...

Болей за тыдзень ідзе руйнаванне. Была чыгунка і няма чыгункі. Дзядзькі з навакольных вёсак возяць шпалы на дровы.

Аднаўляць чыгунку немцы нібы не збіраюцца. Змірыліся. Штосьці гэта ды азначае...

## Выйшлі з друку

**ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»**

**ДЗЕНІСЕВІЧ А. Арлінае племя.** Запіскі камсамольскага работніка. Мастак Ю. Архіпаў. На рускай мове. 1972 г. 426 стар. Тыраж 100.000 экз. Цана 90 кап.

**ЛЯСНІЧЫ С. Далёка за фронтам.** Мемуары. Літаратурная апрацоўка А. Кейзарава. Мастак С. Кавалёў. На рускай мове. 1972 г. 224 стар. Тыраж 50000 экз. Цана 50 кап.

**ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**

**БЯЛЕВІЧ А. Гарынь.** Паэмы. Мастак Г. Паплаўскі. 1972 г. 136 стар. Тыраж 5.000 экз. Цана 61 кап.

**ВАСІЛЕЎСКІ І. Дзівы.** (Вершы для дзяцей). Мастак Е. Жылін. На рускай мове. 1972 г. 38 стар. Тыраж 50000 экз. Цана 31 кап.

**ГЕЛЕР М. Расінка.** Вершы для дзяцей. Мастак А. Грубіна. На рускай мове. 1972 г. 40 стар. Тыраж 50000 экз. Цана 13 кап.

**ГІЛЕВІЧ Н. А дзе ж тая крынічанька?** Вершы і паэмы. Мастак Л. Чурко. 1972 г. 112 стар. Тыраж 5000 экз. Цана 46 кап.

**ГЛЕБКА П. Наш сцяг.** Верш. Малюнкі А. Лось. 1972 г. 8 стар. Тыраж 100000 экз. Цана 9 кап.

**ГНІЛАМЁДАЎ Ул. Традыцыі і наватарства.** Мастак К. Барздыка. 1972 г. 176 стар. Тыраж 2500 экз. Цана 58 кап.

**КІРЭЕНКА К. Алесева кніжка.** Апавяданні. Мастак Ю. Пучынскі. 1972 г. 88 стар. Тыраж 14000 экз. Цана 10 кап.

**ЛОБАН М. Зямля мая—лёс мой, гарадок Устронь.** Серыя «Беларускі раман». Мастак Л. Лобан. На рускай мове. 1972 г. 656 стар. Тыраж 100000 экз. Цана 1 руб. 17 кап.

# ПАД КАЗАЧНЫМ ВЕТРАЗЕМ

«ЦУДОЎНЫЯ ПЯРСЦЁНКІ АЛЬМАНЗОРА»
Т. ГАБЭ Ў БЕЛАРУСКІМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ імя ЯКУБА КОЛАСА

Дзецям казка — што малако і мёд. Праўда, і дарослыя любяць гэтыя прысмакі. Але так натуральна змáліцца, так шчыра ласавацца за дзіцячым сталом, каб малым яшчэ больш захацелася есці, — на гэта трэба мець талент чараўніка. Пад час пастаноўкі «Цудоўных пярсцёнкаў Альманзора» ў тэатры імя Якуба Коласа захапленне маладых акцёраў казкай-камедыяй Т. Габэ апаноўвае залу і настрой гледачоў (і не адно найменшых!) вяртаецца потым на сцэну новай хваляй энергіі і натхнення.

Прынцэса Аўгуста (арт. Н. Левашова) з асалодай адкідае бліскаўкі і карункі прыдворнага этыкету, што ледзяняць ёй кроў, і з запалам свайго ўзросту выбрыквае ў пірацкім адзенні, стрэламі з велізарнага пісталета, палохаючы каралеўскі двор. Яе гарэзлівая натура, закутая дагэтуль нормамі вонкавай прыстойнасці, прарывалася раней зласлівымі выхілкамі і дэспатызмам у адносінах да сястры Алелі. Апрануўшыся ж у шырачэзныя шаравары пірата, замяніўшы карону на экзатычны турбан, Аўгуста робіцца проста падлеткам і дае волю свайму тэмпераменту. У гэты момант усе сімпатыі — да яе. Нельга без прыхільнасці глядзець на круглы тварык, асветлены радасным бляскам вачанят, дасюль халодных і нават зайздрослівых.

Раней прынцэса траціла энергію, каб рабіць назло ўсім, а найперш — залішне прыстойнай, на яе погляд, і нават прыдуркаватай з-за свае дабраты сястры. Пасля таго, як вярнулася з палону ад піратаў, гарэзлівая Аўгуста Н. Левашовай вельмі востра адчувае атмасферу каралеўскага двара наогул.

Рамантычныя прыгоды растапілі лёд на яе сэрцы. Але «перавыхавання» не адбылося. Яна ледзь не з плачам бачыць, як «нявіннае цялятка» — яе сястра Алелі забірае сабе ўсё, што больш належыць ёй, Аўгусце, гэтай «выкапанай дачушцы» сваіх бацькоў: караля Лютага і каралевы Януарыі. Алелі мае ажно трох жаніхоў! Алелі можа заняць трон! Аўгусту не хоча чамусьці бачыць жонкай нават гэты дурань—прынц Балталон, ані той расквечаны, як «панна на выданні», прынц Альдэбаран!.. Умоўна кажучы, прэлюдыя да гэтага канфлікту з каралеўскімі норавамі і з Алелі сыграна па-сцэнічнаму ярка. А вось далей эпізоды не да канца паслядоўна распрацаваны рэжысёрам. Нам па-чалавечаму шкада Аўгусты — шчырасць актрысы не пакідае месца для «справядлівага асуджэння» прынцэсы. Ды чамусьці, калі прынцы дамагаюцца рукі Алелі, а яна застаецца з садоўнікам, які іх выратаваў з няволі, выканаўцы ролі Аўгусты не дадзена ясная задача для выразнай лініі развіцця характару, і на сцэне мы бачым статыста. А Н. Левашова мае даволі багаты мімічны дыяпазон і магла б тут значна ажывіць дадыктычную развязку, не абыходзячыся адной невыразнай рэплікай.

У пастаноўцы У. Забелы больш увагі аддаецца развіццю казачна акрэсленых характараў, чым эфектам, таму спектакль прымаецца хутчэй як інсцэніроўка сярэдневяковага экзатычнага апавядання, а не як фальклорная казка. Сцэнічнае дзеянне, ігра акцёраў, афармленне спектакля спрыяюць добраму настрою залы, пераключаюць увагу малога тэатрала на самыя важныя для развіцця сюжэта і абмалёўкі вобразаў дэталі і мізансцэны.

Асабліва цяжка са сцэны заваёўваць такую ўвагу, як вядома, «носьбітам дабра». Мо таму ў коласаўцаў такім страшным ведзьмаром выглядае стары пірат Кахінур (арт. Я. Буракоў). А вось добрай прынцэсе Апрэліі-Алелі (арт. С. Акружная) і садоўніку Зінзіверу (Б. Сяўко) трэба вытрымаць канкурэнцыю экзотыкі і клаўнады, і нават болей — забраць усю сімпатыю гледача, каб спектакль «караў злое», як гэтага патрабуе прырода жанру.



Артысты Я. Шыпіла (доктар Лячыболь), С. Акружная (Алелі) і Н. Левашова (Аўгуста).

Фота С. КОХАНА.

Станоўчым героям заўсёды выпадае несці дыдактыку, і акцёрам увесь час трэба асцерагацца, каб не перасаладзіць і не перамасліць. Але хто даказаў, што адно салодкае смачна? У гэтым спектаклі Н. Левашова — Аўгуста выразна паказала, да прыкладу, што і крапіва — зелле адмысловае. Б. Сяўко і С. Акружная таксама знайшлі шмат жамчужынак. Нельга, праўда, сказаць, што яны стварылі тут дасканалыя партрэты.

Аднак адмовіўшыся ад уяўна-казачнай летуценнасці, якая многіх артыстаў прыводзіць да нейкага балетнага «плавання» і завыванняў у голасе, Б. Сяўко і С. Акружная змаглі акрэсліць выразныя абрысы прывабных персанажаў — юнака і дзяўчыны. Больш таго, садоўнік Зінзівер у спектаклі найбольш вясковы хлопец, і гэта асабліва ўдала падкрэсліваецца нават бытавымі інтанацыямі ў мове. Шкада, што С. Акружная ўсё ж збіваецца часам на «чароўны галасок», і раптам Алелі-«дурнічка» ператвараецца ў нейкую фею...

Адмовіўшыся ад падкрэсленай стылізацыі персанажаў, рэжысёр атрымаў магчымасць больш разнастайна «арганізаваць» кодла марскіх разбойнікаў. Адзін з іх — Кахінур (Я. Буракоў) захоўвае акцэнты ўсходняга купца. Атаман піратаў (арт. А. Кацельнікаў) побач з ім выглядае «інтэлектуалам»; атрымаўся вобраз асцярожнага, тонкага палітыка, які спалучае ў сабе хітрыкі гандляра, дэспатызм атамана, лісліваcць прыдворнага.

Акцёр паспявае ў кароткім эпізодзе паказаць і звычкі гультаяватага маладога чалавека, гэтым самым поўнасцю вычарпаўшы характар Мікаміэля. Цікавыя акцёрскія твары А. Лабанка і П. Ламана, якія ў экзатычных пастацях піратаў здолелі паказаць простых маладых хлопцаў, для каго гэта рамяство хутчэй гульня, чым покліч «крыважэрнага сэрца».

«Цудоўныя пярсцёнкі» ў Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Якуба Коласа не проста захоўваюць, але і выразна даносяць да малога (і старога) гледача той свет чараў і характва, без якога няма казкі.

Касцюмы герояў, коні прынцаў, светлыя і радасныя тоны фарбаў, незагрувашчанасць сцэны — усё гэта стварае адчуванне казачнай лёгкасці, незвычайнасці і весялосці, бо спектакль таксама камедыя, як і казка. Мастак Я. Нікалаеў, афармляючы гэтае свята віцебскай малечы, дбаў найперш пра вясёлы і ўзнёслы настрой гледачоў, для каго прэм'ера ў коласаўцаў яшчэ і ўрок эстэтыкі, праведзены добрым майстрам. Думаецца, што, назіраючы прыдурка Балталона ці песту Альдэбарана, хто-небудзь са школьнікаў мяркуе, ці не зрабіць сабе такі касцюм на карнавал, захаваўшы, вядома, і асабліваcці голасу артыста У. Куляшова, і кішэнны пульверызатар, як той, што ў руках артыста Г. Ваўчка быў зброяй прынца-харашуна. Малыя ўмеюць з твора мастацтва браць для сябе нешта карыснае і высакароднае. Ну і гарэзлівае таксама.

Ю. БАРЫСЕВІЧ.

---

але затое ніколі не адступае. Калісьці яго назначылі членам кансерватыўнага сената і—як у паз уляпілі. З таго часу чаго толькі ў нас не адбылося! Дзяржаўныя перавароты, рэвалюцыі, падалі троны, змяняліся ўрады, кансульт змяніла імперыя, імперыю — рэстаўрацыя, рэстаўрацыю — ліпеньская манархія, а курылка як жыў, так і жыве. Граф дэ Мірмон збярог за сабой не толькі сваё сенатарскае крэсла, але і ўсе свае дзяржаўныя пасады. А іх у яго восем!»

І такі чалавек—ідыёт? Даруйце!..

Мне здаецца, што гэтае «даруйце!» П. Дубашынскі носіць у сабе, як галоўны матыў паводзін на сцэне. Артыст знайшоў выдатны жэст, які поўнасцю завяршае і знешні малюнак вобраза, і ў той жа час з'яўляецца нібы пераходам да ўнутранага. У хвіліны вышэйшага разумовага напружання граф дэ Мірмон крыху нахіляецца ўперад і энергічна ўзвіхрае на лысіне тры валасіны. Канвульсія думкі!..

Граф, безумоўна, кахае Сезарын. А каханне да жонкі, як кажуць, пачуццё заўсёды сімпатычнае. У нейкі адзін момант артыст і паказвае нам дзіўна сімпатычнага дэ Мірмона. Зразумела, толькі на фоне тых прайдзісветаў, якія вакол яго мітусяцца.

...Ён заўважае, што Сезарын неабыякавая да свайго кузена Аскара Рыго. Тое, што гэта чарговы хітрык жонкі, яму, у рэўнасці, ніколі не зразумець. Ён бачыць толькі відавочнае.

Божухна, якія словы гаворыць Сезарын гэтаму боўдзілу! Пэр увесь напружваецца. Слухае спіной. Патыліцай. Вуха, здаецца, аддзяляецца ад галавы і ля самых вуснаў жонкі—слухае, слухае...

Што такое? Якія там у іх былі намеры? Шлюбныя?.. І пасля гэтага ён павінен памагаць Рыго стаць дэпутатам? Адчапіцеся—не паедзе ён ні на якія выбары! Застанецца з Сезарын, вачэй з яе не звядзе!..

Пад фракам груknула сэрца.

А гэта вельмі неспакойна, калі ў табе чамусьці грукае сэрца. Гэта шкодзіць здароўю.

Графа раптам не пазнаць. Энергічны, рашучы, ён гатовы дзейнічаць. Усёй сваёй сілай і ўладай бараніць тое, што належыць толькі яму аднаму. Тут П. Дубашынскі ўжо не выступае, а амаль выбягае на сцэну. З ружжом у руках.

Праўда, прадумана гэтая мізансцэна не да канца. І справа вось у чым. Спачатку глядач смяецца. Гэта сапраўды смешна: сцерагчы жонку з ружжом. А ў наступную хвіліну гледачу няёмка, бо ён, аказваецца, не зразумеў сутнасці падзеі. Смяяцца тут не было з чаго. Граф усяго толькі... збіраецца на паляванне.

Выходзіць, што гледача справакавалі не на «той» смех.

Далей у спектаклі Сезарын «дае мужу магчымасць угаварыць сябе» (бо ёй зараз толькі гэта і трэба) змяніць міласць да Аскара Рыго на міласць да Эдмонда дэ Варэна.

Граф крануты надзвычайна.

Прозвішча Эдмонда абудзіла ў ім далёкія ўспаміны: Марат, Рабесп'ер. У гэты момант П. Дубашынскі насвіствае ...«Марсельезу». І робіць жэст, нібы ўздымае сцяг.

О, граф, як даўно гэта было... І ці было наогул?..

Высокае дзяржаўнае становішча, безумоўна, дасталася яму не проста. Ён ішоў да яго па галовах. Ішоў тады, калі ў адзін з дзён можна было стаць кумірам Францыі, або ў другі—легчы пад гільяціну. І выбраў тады сярэдняе. Не стаў кумірам, але і галава засталася на плячах.

І помніць гэта. Помніць, што ад гільяціны—літаральна ці ўскосна — трэба быць далей.

Работа П. Дубашынскага—лепшая ў спектаклі. Да таго ж адчуваецца, што ў ёй застаўся нейкі нескарыстаны запас. Нескарыстаны, бо рэжысёр і выканаўцы большасці ролей (хто больш, хто менш), на маю думку, пайшлі ў сваіх пошуках не на многа далей ад самога Скрыба. Значныя фармальныя змены (пяць дзеяў, напрыклад, скампанаваны ў дзве) не прывялі да адчувальнага творчага пераасэнсавання драматургічнага матэрыялу. Часамі атрымліваецца так, што П. Дубашынскаму не хапае партнёраў, якія ігралі б на тым жа ўзроўні паглыблення ў сатырычную стыхію. Затое сам ён заслугоўвае адрасаваныя яму апладысменты.

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.

---

# ПЕРАД ТЭЛЕКАМЕРАЙ— Расціслаў ЯНКОЎСКІ

...У кадры паплылі рэклама, вестыбюль, фае, глядзельная зала Рускага тэатра, і шматвопытны, а таму настроены не вельмі аптымістычна, глядач падрыхтаваўся. Зараз, зараз—ён ведаў гэта з ранейшых такіх перадач—мы ўвойдзем з апаратарам у акцёрскую грымёрку, убачым, як герой перадачы падклейвае вусы ці кладзе пад вачыма цень, потым з экрана ўсміхнецца дыктарка, паведаміць тое, што глядач ужо бачыць сам, і з той жа дзяжурнай зацікаўленасцю на твары, з якой надоечы задавала пытанні аграному ці работніку аўтаінспекцыі, спытае ў артыста калі ён нарадзіўся і дзе вучыўся...

Колькі разоў тэлебачанне прапаноўвала нарысы аб папулярных акцёрах, складзеныя па такому шаблону! Завучанае вядучым яўна неарганічнае для яго пытанне выклікала і вялы, інфармацыйны, хай сабе і з астраўкамі штучнай, запланаванай эмацыянальнасці адказ; потым ішла запісаная на плёнку сцэна са спектакля—удзельнікі перадачы відочна пры гэтым рады, што могуць перапыніцца; потым зноў напружаная, з падглядам у паперкі, размова... Заканчвалася перадача, і заставаўся ты з прыкрым, дваістым адчуваннем: нібы ва ўрыўках са спектакляў, калі акцёр быў у вобразе, бачыў яго сапраўднага, жывога, а за мадэрнавым столікам у студыі, дзе ён сядзеў і размаўляў без грыму і сцэнічнага касцюма,—не вельмі ўдалую яго фатаграфію.

Вось чаму шматвопытны наш глядач на пачатку насцярожыўся і тут. І хоць тэлекамера, насуперак таму, што ён чакаў, не павяла яго ў грымёрку і абмінула прывычную вядучую, ён усё роўна нейкі час заставаўся скептыкам. Бач, арыгіналы знайшліся—адразу ж даюць слова самому Янкоўскаму, артысту, якому прысвечана перадача. Гэта што ж у іх маецца на ўвазе—чалавек сам сябе будзе атэстоўваць?..

Але ўсё, на гэтым скептык і кончыўся. З'явіўся ўважлівы, удзячны зычлівец. Бо нязмушаная, шчырая, усхваляваная размова, якую пачаў артыст, неяк адразу ўвяла ў круг значных, шырокіх інтарэсаў, зацікавіла неардынарнымі развагамі. Ён менш за ўсё расказваў пра сябе, герой перадачы,—звычайнай інфармацыі пра тое, калі нарадзіўся і дзе вучыўся народны артыст БССР Расціслаў Іванавіч Янкоўскі, з экрана так і не прагучала. Але якое ж складанае духоўнае жыццё, якая багатая натура прыадкрыліся тым, хто сядзеў ля тэлевізараў!

Бадай, самае галоўнае, што пасля перадачы не засталося памянёнай ужо двaістасці, расчаравання ад таго, што вобразы, створаныя артыстам, гэта, аказваецца, адно, а сам ён—нешта іншае. Наадварот, мы з прыемнасцю ўбачылі, што Янкоўскага як Янкоўскага хвалюе тое ж, што хвалюе яго як Чашкова, Нагульнава, Левінсона, Арбеніна,—называю тых яго герояў, з якімі артыст пазнаёміў нас у перадачы. І стала зразумелым, у імя чаго ён выходзіць на сцэну; што ў сваёй рабоце, у сваёй прафесіі лічыць галоўным, найважнейшым...

У апошні час неяк прынята гаварыць пра гледача толькі ў найвышэйшай як бы ступені—які ён разумны, падрыхтаваны ды патрабавальны. А глядач, ён розны, шматаблічны. Да аднаго сапраўды трэба расці тэатру, другому — яшчэ расці і расці да тэатра, да разумення таго, пра што і як размаўляе з ім мастацтва. Без напышлівасці, з харошай прастатой і шчырасцю гаварылася пра гэта і ў перадачы. Пра неабходнасць узаемаразумення гледача і тэатра. Пра неабходнасць, урэшце, проста ўзаемнай павагі—той павагі, якая не дапускае хоць бы шамацення ў зале фальгой ад цукерак нават калі на сцэне нешта і не так...

Пераканаўчай, даверлівай інтанацыі, з якой вёў размову Расціслаў Янкоўскі, вельмі спрыяў яго таварыш, заслужаны артыст рэспублікі Юрый Сідараў—адзіны чалавек, што знаходзіўся, апроч самога Янкоўскага, у студыі ў час перадачы. Ён быў не вядучым у зацяганым сэнсе гэтага слова,—ён заставаўся тактоўным калегам, сябрам, аднадумцам чалавека, з якім прыехаў на тэлебачанне.

Я б хацеў назваць тут і ўдзельнікаў перадачы, якіх у кадры не было,—аўтара, рэжысёраў, нават мастака, які падрыхтаваў застаўкі да ўрыўкаў са спектакляў. Я ж разумею, што непасрэднасць, яснасць і выразнасць яе з'явіліся не самі па сабе, а ў выніку таго, што шмат людзей сумленна і цікава папрацавалі. Але імёны іх тэлебачанне чамусьці не палічыла патрэбным паведаміць. Калі гэта проста сціпласць, то дарэмная...

Ул. МЕХАЎ.

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

**23 лютага ў памяшканні Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі адкрылася рэспубліканская выстаўка «На варце міру», прысвечаная 55-годдзю слаўных Узброеных Сіл Савецкага Саюза. Прапануем вашай увазе рэпрадукцыі некалькіх новых работ з гэтай выстаўкі.**



У. АНАНЬКА. Камісар Т. Яўсееў.



У. МАТРОСАЎ. Бацька.



М. АБРЫНЬБА. Партызанскі сцяг.

НАШЫ МАЙСТРЫ МАСТАЦТВА

# «МОЙ РОДНЫ КУТ! ЯК ТЫ МНЕ МІЛЫ...»

ПРА творчасць Віталя Канстанцінавіча Цвірко пісаць і лёгка і ў той жа час цяжка. Лёгка таму, што кожны, хто цікавіцца мастацтвам, добра ведае яго работы, без якіх сёння нельга ўявіць сабе развіцця беларускага жывапісу. А цяжка таму, што ў кожнага аматара жывапісу — свае адносіны да карцін спрактыкаванага майстра, свае прыхільнасці, свае ўлюбёныя палотны. Творчасць Віталя Канстанцінавіча вельмі разнастайная, шматгранная — ён заўсёды ў пошуку, кожная яго новая работа — эксперымент, падарожжа ў краіну невядомага.

Віталю Канстанцінавічу пашанцавала на настаўнікаў. У Віцебскім мастацкім тэхнікуме, які скончыў яшчэ ў 1935 годзе, ён вучыўся ў В. Хрусталёва, Л. Лейтмана, Ф. Фогта, а ў Маскоўскім мастацкім інстытуце ўдасканальваў сваё майстэрства пад кіраўніцтвам С. Герасімава, П. Пакаржэўскага, Г. Ражскага. Вучоба ў гэтых выдатных педагогаў адшліфавала прыродны талент мастака, дапамагла яму набыць віртуознае майстэрства, якім вызначаецца кожная яго работа.

...Беларускі пейзаж! Яго някідкая прыгажосць і лірычнасць—бадай, галоўная тэма творчасці В. Цвірко. Яму даводзілася, канечне, пісаць цудоўныя краявіды Крыма, Сярэдняй Азіі, Падмаскоўя, Прыбалтыкі, Балгарыі і многіх іншых прыгожых куткоў зямлі, але сэрцам ён заўсёды быў тут, у Беларусі. Нідзе, відаць, не пісалася яму так хораша і плённа, як на роднай зямлі, прыгажосць якой ён улітваў з маленства, якую разумеў сэрцам.

В. Цвірко ўмее заўважыць і цноту ранішніх туманаў, і празрыстасць бэзавых золкаў. Ён, як сапраўдны чараўнік, можа прымусіць нас убачыць на палатне той няўлоўны стан прыроды, калі ўсё ў ёй «на пераломе».

...Восень яшчэ змагаецца за свае правы; паветра цяжкае, густое, яно размывае далягляды, робіць іх шэрымі, амаль бруднымі, але недзе там, у самым эпіцэнтры гэтай «шэрасці», на невысокім пагорку, бы ўспышка яраснага лета, — тоненькая арабінка з чырвонымі пладамі.

...Самы канец зімы. Снег яшчэ ляжыць трывала — тоўстым, пульхным дываном. Паветра, бы крышталь, звініць і пяе ад марозу. Яркае сонца льецца на зямлю, адбіваецца ад снегу, ад пакрытых інеем дрэў, зіхціць тысячамі нечаканых рэфлексаў... Але нешта трывожыць вока, нешта выклікае недавер да гэтай самаўпэўненай непахіснасці зімы. Свята?.. Так. Свята... У ім б'ецца бударажыць кроў прадчуванне вясны.

...На высокай нёманскай кручы прытулілася старадаўняя каплічка. Ціхі-ціхі вечар. Усё замерла, сцішэла, нават птушкі не спяваюць. Элегічны спакой разліты над зямлёй. Ды толькі недзе там далёка, за ракой, за лясамі і палямі пачынае разгарацца полымя зары. І ў яе чырвані, столькі дынэмікі, столькі напружанасці і маладосці, што разумееш — не ціхім шалясценнем апалага лісця праляцелі стагоддзі над гэтай капліцай, а бурнай, неўтаймаванай віхурай, багатай на падзеі, барацьбу і перамогі.

В. Цвірко ўмее з вялікім майстэрствам расказаць пра трапяткую прыгажосць роднай прыроды, яе непаўторнасць, але ён можа заўважыць у звычайным матыве і тыя глыбокія падтэксты, якія надаюць яму амаль эпічнае гучанне. Іншы раз, стоячы перад яго карцінай, аналізуючы тэхнічныя сродкі, пры дапамозе якіх ён дасягае тых чыста «цвіркоўскіх», індывідуальных эфектаў, губляешся, бо, здаецца, што ўсё тут вядомае — і законы кампаноўкі, якімі ён карыстаецца, і законы спалучэння фарбаў, і распрацоўка тэмы... Знаёмае, але кожны раз нечаканае, кожны раз новае!

У чым жа сакрэт? Што дазваляе мастаку, карыстаючыся вядомымі, ім жа самім распрацаванымі прыёмамі жывапісу, у кожным палатне паказваць нешта новае, нешта такое, чаго мы самі не заўважалі, міма чаго праходзілі, не звяртаючы ўвагі, не захапляючыся?..

У майстэрні Віталя Канстанцінавіча прасторна і светла. Нічога лішняга, нічога, што перашкаджала б плённай, напружанай штодзённай працы. Мальберт, на ім падрамнік з нацягнутым палатном, побач столік з фарбамі, чыстымі пэндзлямі. А ўздоўж сцен стэлажы з эцюдамі, накідамі, карцінамі, папкі з малюнкамі... Сотні, тысячы работ, якіх, відаць, ніколі не бачыў глядач, ды якіх і не трэба бачыць гледачу, бо яны—лабараторыя мастака. Тая лабараторыя, у якой адпрацоўваюцца, удасканальваюцца, набываюць вастрыню і дакладнасць прыёмы майстэрства, якія потым, бы дыяменты, заззяюць у выставачных работах.

Мне здаецца, што сакрэт поспеху В. Цвірко не ў малой ступені залежыць ад гэтай, нябачнай шырокаму гледачу, падспуднай лабараторнай работы.

В. Цвірко майстар віртуозны. Іншы раз здзіўляешся нават: здаецца ўсё ва ўбачанай яго карціне дасканала, усё на месцы — лепей нельга! Праходзіш у суседнюю залу і разумееш— няма мяжы дасканаласці.

Памятаю, як уразіла мяне яго карціна «Сінія далі». Уразіла тым, як у звычайным вясковым матыве мастак здолеў перадаць столькі пранізлівага суму аб нечым адвечным, непаўторным. Сінява, якая бы разліта па палатне, празрыстая і ледзь улоўная на першым плане, гусцее, набывае нейкую матэрыяльнасць у глыбіні, выдатна перадаючы адлегласць. Мастак здолеў прымусіць адну фарбу гучаць на некалькі галасоў, весці некалькі тэм у агульнай мелодыі пейзажу.

А хіба такія яго работы, як «Лагойскі сказ», «Адліга», «Вёска Акулінка», «Прыпяць», «Каложа», «Сказ пра Палессе», не ўражваюць!.. Хіба іх можна забыць!..

Віталь Канстанцінавіч Цвірко — нястомны вандроўнік. Яго палітра ўвабрала ў сябе фарбы Міншчыны і Браслаўшчыны, Наднёманскага краю і Палесся. Ён піша і невядомыя рачулкі, і рыбацкія вёскі, старадаўнія цэркаўкі, якія схаваліся між купаў дрэў, і сучасныя гарадскія пейзажы. Ён вельмі шчодры, ніколі і ні ад каго не хавае сакрэтаў сваёй творчасці. У яго вучацца, ад яго пераймаюць. Мне неяк давялося гутарыць у Гродна з мастакамі якраз пасля таго, як Віталь Канстанцінавіч прыязджаў у гэты горад на эцюды. З якім захапленнем гаварылі яны пра яго працавітасць. Як здзіўляліся лёгкасці, з якой спрактыкаваны жывапісец мог схапіць галоўнае ў пейзажы, вывесці на першы план дэталь, якая надае звычайнаму матыву нейкае заглыбленае, неадназначнае гучанне...

Дарэчы пра дэталі. В. Цвірко здзіўляе сваім уменнем працаваць з дэталямі, рэжысіраваць іх. Яго палотны, напісаныя шырока, лакальнымі каляровымі плямамі, іншы раз маглі б падацца нават сухаватымі, залішне лапідарнымі, калі б не трапная, выверaная і дакладна знойдзеная дэталь, якая бы ўдыхае ў карціну жыццё, «прымушае» яе жыць, гаварыць на поўны голас. В. Цвірко не толькі ўмее ўбачыць неабходную дэталь, вывесці яе на першы план, ён умее прадбачыць узаемаадносіны паміж дэталямі, іх узаемаўплыў. Іншы раз, мне здаецца, ён нават «сачыняе» іх, але гэтае сачыненне настолькі натуральнае, што не толькі верыш яму, але думаеш, што сама прырода дапусціла пралік, не пакінуўшы на арабіне пурпурнай гронкі ягад альбо не размясціўшы на высокім кургане тонкай, трапяткой бярозкі, а мастак толькі ледзь-ледзь падправіў яе, як добразычлівы і таленавіты рэдактар, які, ледзь кранууўшы пяром увогуле дасканалую страфу, ператварае яе ў шэдэўр.

У душы Віталя Канстанцінавіча Цвірко жыве прага прыгожага, улюбёнасць у прыгожае, якая вызначае творчасць кожнага сапраўднага паэта, у якім бы жанры мастацтва ён ні працаваў. І як кожны сапраўдны паэт, Віталь Канстанцінавіч ніколі не спыняецца на дасягнутым, ніколі механічна не «эксплуатуе» аднойчы знойдзены прыём. Дастаткова кінуць рэтраспектыўны погляд на яго творчасць, каб заўважыць, як ён мяняецца, расце, шукае.

Прыгадаем яго работы саракавых гадоў, такія, як «Сакавік. Халодны дзень» альбо «Разліў у Мінску»; «Ля млына», «Вёска Кісялі», «Завознікі», якія былі напісаны на пачатку пяцідзесятых, — і параўнаем іх з тымі, якія бачылі на выстаўках шасцідзесятых гадоў: «Лагойскі сказ», «Адліга», «Каложа», «Сінія далі». Мы заўважым, якім няпростым шляхам, пераадольваючы памылкі, вырашаючы складаныя праблемы, ішоў мастак. Пра складанасць яго пошуку сведчаць іншы раз і зусім розных планаў работы, паказаныя на адной выстаўцы. Глядзіш, здараецца, і нават не верыцца, што аўтар іх — адзін чалавек. Можа, каму-небудзь падасца, што гэта сведчыць аб пэўнай мастакоўскай усяляднасці, непатрабавальнасці да сябе. Усё гэта было б, можа, і так, калі б кожная работа В. Цвірко не была прасякнута светам сапраўднага вялікага таленту, сапраўднай і вялікай любві да роднай зямлі, да яе прыгажосці.



Няправільна было б лічыць В. Цвірко «чыстым пейзажыстам. У яго творчай спадчыне ёсць і кампазіцыйныя карціны, такія, як «Няскораныя» і «Паўстанне рыбакоў на возеры Нарач». У гэтых работах В. Цвірко, захаваўшы тую непасрэднасць успрыняцця, якой вызначаюцца яго пайзажы, паўстае перад намі як удумлівы кампазітар, сапраўдны, глыбокі мысліцель, здольны звязаць у адно значныя падзеі гісторыі, вырыць іх мікраметрам асабістага жыццёвага вопыту, надаць ім значнае сацыяльнае гучанне.

Ён вельмі пільна ставіцца да характару людзей. Яны ў яго не проста характэрныя персанажы, а сапраўдныя героі, са сваім неадназначным, складаным унутраным светам, страсцямі, пакутамі, ўпэўненасцю ў справядлівасці сваёй барацьбы, непазбежнасцю перамогі.

Чалавек заўсёды нябачна прысутнічае і ў пейзажах Віталя Канстанцінавіча. Пра яго здзяйсненні расказваюць сучасныя індустрыяльныя і гарадскія пейзажы, цэлы шэраг якіх стварыў у апошнія гады В. Цвірко; глыбока чалавечым адчуваннем прыгажосці напоўнены і яго ранейшыя, вясковыя, пейзажы. Чалавек — вось галоўны герой кожнай яго работы. Чалавек, у душы якога, як і ў душы мастака, заўсёды жыве прага песні, прага прыгажосці.

Расказ пра Віталя Канстанцінавіча Цвірко быў бы няпоўным, калі б мы не расказалі пра яго вялікую і плённую педагагічную дзейнасць.

У першыя пасляваенныя гады, вярнуўшыся ў разбураны Мінск, Віталь Канстанцінавіч актыўна ўключыўся ў работу па стварэнню Мінскага мастацкага вучылішча, потым доўгі час працаваў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, быў яго рэктарам. Шмат каму з маладых перадаў ён сваё ўмельства, шмат каго навучыў глядзець на свет вачыма паэта, шмат каму даў пуцёўку ў сапраўднае мастацтва. Але і сёння сваім прыкладам, сваёй штодзённай плённай працай, сваімі цудоўнымі карцінамі ён працягвае вялікую справу выхавання чалавека ў чалавеку, справу, якой ён прысвяціў усё жыццё...

**Б. ПРАХАРЭНКА.**



П. СВЕНТАХОУСКІ. Трывожная граніца.



Л. ЗІЛЬБЕР. Інтэрнацыянал.



У. КУХАРАУ. Бацька Мінай.

# ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ Ў ГОРАДЗЕ...

МІНЧАНЕ прызвычаіліся да галоўнай магістралі сталіцы — Ленінскага праспекта, любяць яго і не заўсёды заўважаюць крыўдную недарэчнасць, якую ў свой час дапусцілі архітэктары. Там, дзе праспект плаўна спускаецца да ракі, паміж цыркам і манументам на плошчы Перамогі прытуліліся ўрослыя ў зямлю, нязграбныя карпусы Дома фізкультуры. Збудаванне гэтае не нясе вобразнай нагрузкі, выпадае з агульнага, параднага ансамбля магістралі. Калісьці ў гэтых карпусах была размешчана электрастанцыя. Гэта было даўно, у той час яе будынак стаяў амаль на ўскраіне горада. Горад разросся — і вось сёння мы не ведаем, што рабіць з гэтай даўнейшай «памылкай» архітэктараў.

Нядаўна быў абмеркаваны праект забудовы ў пойме Свіслачы.

Архітэктары прапанавалі знесці непрывабныя карпусы былой электрастанцыі, адкрыць праспект у бок зялёнай зоны парку імя Горкага, а пляцоўку на месцы Дома фізкультуры «перакрыць» вялізнай платформай з газонамі, пад якой размясціць стаянку аўтамабіляў, кафэ, розныя кіёскі. Гэтае рашэнне дазволіць выправіць памылку горадабудаўнікоў, але праблема, якая ўзнікла на рубяжы стагоддзяў, застанецца праблемай.

Імя ёй — электрастанцыя ў горадзе...

Некалькі дзён назад у Мінскім доме архітэктара адкрылася выстаўка, якая дапамагае нам уявіць сабе, што робіцца ў галіне праектавання гарадскіх электрастанцый сёння. На стэндах выстаўкі — работы архітэктараў Мінскага філіяла Дзяржаўнага інстытута «Прамэнергапраект».

Выстаўка рэтраспектыўная, яна расказвае пра дваццацігадовую творчую працу супрацоўнікаў інстытута.

Мінчане распрацоўвалі праекты Полацкай, Гродзенскай, Васілевіцкай, Вільнюскай, Саратаўскай, Навакуйбышаўскай ЦЭЦ. Геаграфія даволі шырокая, гарады розныя, адны большыя, другія меншыя. І цеплацэнтралі праектаваліся для іх, зразумела, рознай магутнасці, але ўсе яны размешчаны ў горадзе.

Цеплацэнтраль нельга, як напрыклад завод, вынесці за межы горада, бо яна звязана з ім артэрыямі камунікацыі. І таму архітэктарам, якія ствараюць праекты цеплацэнтралей, трэба ведаць, якім павінен быць яе будынак, як ён будзе ўплываць на агульную забудову горада, як будзе ўпісвацца ў яе.

Гэтыя пытанні не вырашыш больш-менш удалай «пасадкай» карпусоў цеплацэнтралі, у забудове, якая ўжо існуе, бо такія прадпрыемствы па сваіх маштабах прэтэндуюць на ролю значнага горадабудаўнічага фактару. Станцыі заўсёды дамініруюць у забудове, іх не схаваеш — дымавыя трубы, градзірні, гмахі карпусоў відаць здалёк.

Ёсць у праекціроўшчыкаў «Прамэнергапраекта» і праблемы «ўнутранай» архітэктуры — планіровачныя рашэнні самой станцыі, яе інтэр'ераў, камунікацый, асяроддзя, у якім прыйдзецца працаваць людзям.

Архітэктарам даводзіцца ўлічваць і сітуацыі, якія могуць узнікнуць у будучым, прадбачыць іх. Гэта вельмі важна. Бо нават у наш час, калі праектавалі і ўзводзілі Мінскую ЦЭЦ-3, ніхто не думаў, што зусім хутка яна апынецца ў цэнтры буйнага жылога раёна.

Шмат думак узнікае, калі знаёмішся з прадстаўленымі на выстаўцы праектамі. Ды ці толькі праектамі — на выстаўцы ж экспануюцца і фотаздымкі ўзведзеных прадпрыемстваў.

Сёння ўжо залішне гаварыць пра тую ролю, якую адыгрывае ў забудове горада электрастанцыя і цеплацэнтраль. З тым, што роля гэтая вельмі вялікая — пагадзіліся ўсе. Відаць, прыйшоў час патрабаваць ад архітэктараў стварэння больш разнастайных праектаў такіх прадпрыемстваў, смела выкарыстоўваць новыя будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі.

На жаль, пераасэнсаванне традыцый у галіне праектавання прадпрыемстваў «гарадской энергетыкі» ідзе больш марудна, чым, напрыклад, у грамадскім або жыллёвым будаўніцтве.

Не апошнюю ролю тут адыгрывае жорсткая спецыфіка аб'ектаў, але нельга не сказаць, што шмат у чым вінаватыя і самі праекціроўшчыкі. Яны яшчэ іншы раз намагаюцца працаваць па старынцы, па тых шаблонах, заганнасць якіх так яскрава пацвердзіла жыццё.

У некаторых праектах, паказаных на выстаўцы, недастаткова акрэслена заніраванне, не выдзелены галоўныя і другарадныя аб'ёмы.

Не вельмі клапоцяцца архітэктары і пра каляровае вырашэнне аб'ектаў. Мінская ЦЭЦ-4, напрыклад, вырашана ў «глухіх», шэрых танах. Тлумачаць гэта тым, што нейтральны тон для вялікіх прамысловых будынкаў адзіна магчымы. Але прыгадайце такі ж «глухі» будынак халадзільніка на вуліцы Першамайскай. Яго шэрыя сцены зусім не нейтральныя.

Архітэктары абавязаны аддаваць больш увагі не толькі інтэр'ерам цеплацэнтралей (якія, дарэчы, у многіх праектах вырашаны неапраўдана стракатымі), але і экстэр'ерам вуліц, на якіх будзе стаяць прадпрыемства, павінны больш дбаць і пра яго сілуэт, пра добраўпарадкаванне тэрыторыі, якая акружае карпусы прадпрыемства.

Відаць, больш смела трэба выкарыстоўваць у стварэнні праектаў цеплацэнтралей такія элементы, як манументальныя ўстаўкі, манументальны жывапіс.

Электрастанцыі і цеплацэнтралі нясуць нашым гарадам святло і цяпло, і таму нам зусім не ўсё роўна, як яны будуць выглядаць, якую вобразную нагрузку будуць несці сёння і заўтра гэтыя гмахі, што выпраменьваюць энергію...

М. МАРЦІНКОЎСКІ.

# НЕ СМЕХАМ АДЗІНЫМ...

Кожны, хто карыстаецца газетай з нядзельнымі праграмамі Беларускага тэлебачання і радыё, напэўна звярнуў увагу на ёмістыя, дасціпныя і дужа смешныя малюнкі мастака Уладзіміра Бараноўскага, якія сістэматычна друкуюцца тут пад рубрыкай «Вясёлы экран». Чалавек глядзіць тэлевізар. Чалавек слухае радыёперадачу. І ўсё... Калі не лічыць вельмі лаканічнага подпісу, нечаканы змест якога — нібы «апошняя кропля» ў камічнай сітуацыі, паказанай на малюнку. Здаецца, ці многа можна прыдумаць такіх сітуацый? А вось жа каторы год што ні выпуск «Беларускага тэлебачання і радыё», то і «Вясёлы экран», які нязменна застаецца па-сапраўднаму вясёлым. Не так даўно ў Доме радыё была наладжана выстаўка работ У. Бараноўскага. На ёй было прадстаўлена 120 плакатаў, карыкатур, графічных гумарэсак, створаных у апошні час.

— Адбіраў больш як з тысячы малюнкаў, — гаварыў мастак. — Бо маляваў яшчэ ў школе, у рамесным, у арміі, потым — працуючы на камвольным камбінаце... Заўсёды маляваў, як памятаю сябе.

Выстаўленыя малюнкі здольнага графіка прыцягваюць увагу злабадзённасцю зместу, трапным сатырычным прыцэлам.

Калі працуеш, як кажуць, на масавых напрамках сучаснай сатырычнай графікі, заўсёды існуе небяспека міжвольна паўтарыць сябе, альбо неўпрыкмет прыхапіць тое-сёе са «склада гатовых вырабаў». З'ява не такая ўжо рэдкая. Бараноўскаму ў большасці выпадкаў шанцуе пазбегчы гэтых спакус. Яго малюнак мае сваю адметную. інтанацыю, свой арыгінальны сатырычны ход.

Лепш за ўсё — пра гэта сведчыць і экспазіцыя выстаўкі — У. Бараноўскаму ўдаюцца карыкатуры жыццёвыя. Наш побыт, нашы паводзіны, нашы дзеці — вось да чаго па-сапраўднаму ляжыць душа мастака. У Бараноўскага ёсць дзесяткі карыкатур, у якіх дзейнічае мядзведзь. Міхайла Іванавіч выконвае тую ж ролю, што і ў байках: парадзіруе чалавечыя характары і паводзіны, бязлітасна асуджае людскія заганы і недахопы. Да цэлага цыкла малюнкаў У. Бараноўскага можна было б паставіць рубрыку «Бацькі і дзеці». Кожны з іх — то вясёлае і лагоднае, то дакорлівае і гнеўнае адкрыццё назіральнага чалавека, разлічанае на тое, каб растрывожыць наша сумленне, каб мы, смеючыся, задумаліся і зрабілі для сябе пэўныя вывады.

...Цяпер Уладзімір Бараноўскі збіраецца завезці ўсе свае 120 малюнкаў у адну сельскую школу на Міншчыне. «Няхай дзеці паглядзяць, — тлумачыць мастак свой намер. — Можа, каторы і прыахвоціцца да гэтай справы». Слова «справа» гаворыць важка, сур'ёзна, з павагай, так, як гавораць людзі пра сваю любімую работу.

І. АГЕЕЎ.

# ПАТРЭБНЫЯ ВЫДАННІ

Пагранічны Брэст... Бясконцы паток турыстаў, якія едуць сюды да свяшчэнных руін крэпасці-героя. Ахвотна наведваюць яны і іншыя гістарычныя мясціны Брэстчыны, цікавасць да якіх расце з кожным годам. А пасля сустрэчы заўсёды хочацца набыць цікавы сувенір на успамін аб гэтых падарожжах.

Шматлікім наведвальнікам Брэста, легендарнай цытадэлі над Бугам, адрасуецца досыць шырокі выбар альбомаў і буклетаў аб горадзе, аб Брэсцкай крэпасці-героі. Зусім нядаўна побач з імі ў кнігарнях і кіёсках «Саюздрук» з'явіліся навінкі — невялічкія маляўнічыя буклеты аб славутых месцах Брэстчыны, якія выдала творчая студыя Саюза журналістаў БССР «Фота і жыццё».

Безумоўна, «Фота і жыццё» зрабіла карысную справу, якая павінна мець працяг, стаць добраю практыкай. Менавіта таму хочацца падзяліцца ўражаннямі аб першай спробе.

Вось яны, гэтыя буклеты — «Брэсцкая група РСДРП», «Камянецкі слуп», «Тадэвуш Касцюшка», «Канцлагер у Бярозе-Картузскай».... Напісаныя рознымі аўтарамі, яны аб'яднаны адной задумай-мэтай: у сціслым па памеры выданні пазнаёміць чытача з той ці іншай гістарычнай з'явай ці славутай мясцінай, альбо чалавекам, чый лёс звязаны з Брэстчынай.

Добра расказала Т. Слесарук аб канцлагеры ў Бярозе-Картузскай, у якім буржуазны ўрад панскай Польшчы спрабаваў задушыць рэвалюцыйны рух, зламаць волю працоўных Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да свабоды. Аўтар выкарыстоўвае ўспаміны вязняў, вершы ўкраінскага паэта-рэвалюцыянера А. Гаўрылюка, які не адзін год правёў у канцлагеры і пакінуў хвалюючае сведчанне мужнасці і нязломнасці барацьбітоў за шчасце народа.

Лаканічна і жыва расказаў М. Алексяюк аб дзяцінстве і юнацтве будучага палкаводца, якія прайшлі ў фальварку Мерачоўшчына ля Косава і ў маёнтку Сяхновічы пад Брэстам.

А вось тэкст буклета «Жывёльны свет Брэстчыны» (аўтар Р. Савіч) перагружаны неабавязковымі дэталямі.

Але найбольшыя прэтэнзіі выклікае падбор ілюстрацыйнага матэрыялу, мастацкае афармленне буклетаў (рэдактар У. Фрэйдзін). У буклеце, прысвечаным Т. Касцюшку, змешчана вельмі дрэнная рэпрадукцыя здымка доміка ў Марачоўшчыне, дзе нарадзіўся палкаводзец. На развароце побач стаяць два здымкі: ліпавая алея ў Сяхновічах і алея, якую пасадзіў сам Т. Касцюшка. Незразумела, навошта даваць першы здымак, які не мае ніякага дачынення да тэмы. Скупую плошчу буклета можна было выкарыстаць больш рацыянальна. Нецікавы і здымак фрагмента экспазіцыі ў Брэсцкім краязнаўчым музеі, прысвечанай Т. Касцюшку (фота У. Мяжэвіча).

Наогул пры знаёмстве з ілюстрацыямі буклетаў узнікае многа пытанняў. У буклеце «Камянецкі слуп» мы бачым два малюнкі слупа і... яго макет у Брэсцкім краязнаўчым музеі! А слуп уцалеў да нашых дзён, так што не цяжка было зрабіць добрыя здымкі. Буклет «Жывёльны свет Брэстчыны» змяшчае цікавыя здымкі М. Ананьіна, але яны ўжо добра знаёмыя нам па іншых выданнях, прысвечаных Белавежскай пушчы...

Хочацца спадзявацца, што праца студыі «Фота і жыццё» знойдзе працяг — з'явяцца буклеты, якія б расказалі аб жыцці славутага генерала Парыжскай камуны Яраслава Дамброўскага, дзекабрыста В. Кюхельбекера, палкаводца А. Суворава, рускага пісьменніка А. Грыбаедава, кіраўніка паўстання 1863 года Рамульда Траўгута і іншых. Іх тэмай можа стаць і гісторыя гарадоў, такіх, як Кобрын, Бяроза, Пружаны, Косава, Ружаны... Тэм многа, ёсць вопыт, ёсць жаданне.

Турысты, усе хто прыязджае на Брэстчыну, скажуць аўтарам такіх буклетаў шчырае дзякуй.

Рыгор БАКІЕВІЧ.

# «ХАЙ ЗАЎЖДЫ БУДЗЕ СОНЦА!..»

## УЧОРА ПАЧАЎСЯ ТЫДЗЕНЬ МУЗЫКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА

*Адзін з замежных гасцей аднойчы ў Мінску выказаў такую думку: у Савецкім Саюзе ёсць цудоўны народ, які карыстаецца выключнымі правамі — гэта дзеці.*

*Сапраўды, Радзіма-маці для сваіх маленькіх грамадзян робіць усё, каб яны раслі шчаслівыя, вартыя той эпохі, у якой будуць жыць — эпохі камунізму.*

*Адной з такіх праяў бацькоўскага клопату краіны аб дзецях з'яўляецца традыцыйны Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва, які праводзіцца кожную вясну на першым тыдні сакавіка ва ўсіх братніх рэспубліках, пачынаючы з 1972 года.*

*Спецыяльнай пастановай сакратарыята ВЦСПС, сакратарыята ЦК ВЛКСМ, калегіі Міністэрства асветы СССР і Міністэрства культуры СССР, сакратарыята праўлення Саюза кампазітараў СССР ад 7 сакавіка 1972 года распрацаваны шэраг мерапрыемстваў, якія ў гэты тыдзень павінны праводзіцца для маленькіх грамадзян на ўсёй тэрыторыі нашай краіны.*

*Наш карэспандэнт Л. Крушынская звярнулася да старшыні камісіі музыкі для дзяцей і юнацтва Саюза кампазітараў БССР, музыказнаўцы К. І. Сцепанцэвіч з пытаннямі аб тым, як будзе праходзіць Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва на Беларусі.*

**— Калерыя Іосіфаўна, хто прымае ўдзел у тыдні!**

— Бадай, ніколі, ні на адным свяце кола выканаўцаў не было такім шырокім, як у гэтым музычным фестывалі для дзяцей. Мы запрасілі прыняць удзел у канцэртах тыдня побач з лаўрэатамі міжнародных і ўсесаюзных конкурсаў артыстаў, чыя вядомасць перакрочыла межы нашай краіны, і выхаванцаў малодшых груп. Хай вас гэта не бянтэжыць: так, дзіцячых садоў. Па непасрэднасці і абаяльнасці гэтыя таленавітыя маленькія артысты не маюць канкурэнтаў. Зразумела, кожная група выканаўцаў мае адпаведны рэпертуар, але іх сукweцце пакіне чароўнае ўражанне вялікага музычнага свята дзяцей і для дзяцей.

Калі гаварыць больш канкрэтна, то варта назваць такіх майстроў мастацтва: у канцэртах тыдня прымуць удзел Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР, аркестр Беларускага тэлебачання і радыё, ансамбль песні і танца Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, салісты Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, прафесарска-выкладчыцкі калектыў, студэнты кансерваторыі і мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага... Запрошаны на пачатак сакавіка салісты розных філармоній краіны.

Трэба сказаць пра ўклад, што зробяць нашы беларускія кампазітары. Яны таксама выступаюць у канцэртах тыдня ў розных раёнах Беларусі. Сярод іх адзначу Генрыха Вагнера, Яўгена Глебава, Дзмітрыя Камінскага, Ігара Лучанка, Пятра Падкавырава, Эдзі Тырманд.

Беларусь можа ганарыцца, што яе кампазітары шчодра дораць дзецям і юнацтву натхнёныя, з ярка раскрытымі патрыятычнымі ідэаламі, мілагучныя і чароўныя творы. З імі добра крочыць па дарогах славы бацькоў, гутарыць ля піянерскага вогнішча, сустракаць першы дзень заняткаў у школе і проста гуляць у вольныя хвіліны. Ад жартаўлівай песенькі да оперы — такі дыяпазон рэпертуару, што назапасілі для дзятвы нашы кампазітары.

Учора гэтае свята пачалося. У Мінску і ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі дзецям адкрыты лепшыя канцэртныя залы. Непасрэдна ў школах, навучальных установах, палацах піянераў, у клубах прадпрыемстваў і калгасаў юныя аматары музыкі слухаюць не толькі свае любімыя, вядомыя творы, але і тыя, з якімі яшчэ незнаёмы.

Вельмі цікава будзе юным слухачам пазнаёміцца з музыкай, аўтарамі якой з'яўляюцца самі дзеці. Скажам, у зале сярэдняй спецыяльнай музычнай школы адбудзецца канцэрт, праграма якога складзена выключна з музыкі, напісанай дзецьмі. Выканаўцы яго — аўтары твораў і іх больш дарослыя калегі.

Наладжаны продаж нотных выданняў і кніг па музыцы ў школах і канцэртных залах. Кампазітары на сустрэчах надпісваюць пакупнікам аўтографы. Адбываюцца экскурсіі школьнікаў па музычных навучальных установах, дзе яны знаёмяцца з інструментамі, з працэсам навучання ігры, з работай хору, аркестра і гэтак далей.

Самыя цікавыя творчыя сустрэчы, канцэрты і экскурсіі транслююцца па тэлебачанні і радыё.

**— Як плануецца падвесці вынікі тыдня для дзяцей і юнацтва!**

— Фінальны канцэрт тыдня адбудзецца пры ўдзеле ўсіх лепшых прафесійных і самадзейных мастацкіх сіл. Будзе праведзена навуковая канферэнцыя, прысвечаная стану і задачам эстэтычнага выхавання дзяцей сродкамі музыкі. На канферэнцыі выступяць прадстаўнікі музычнай грамадскасці ўсіх раёнаў рэспублікі. Спадзяёмся, што дыскусія будзе разгорнутая — праблемы ідэйна-эстэтычнага выхавання хвалююць усіх бацькоў, настаўнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, калгасаў. Чакаем, што з'явяцца канструктыўныя прапановы і меркаванні...

●

*Учора і сёння ў светлых залах гучыць музыка, адрасаваная сэрцу юнага грамадзяніна. Марш і вальс, крылатая песня і ўрачысты хор, маштабны сімфанічны твор і аркестравая мініяцюра — усе жанры прадстаўлены праграмамі тыдня. Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што такая радасная і карысная сустрэча з харством мастацтва адбываецца на пачатку вясны, што апошні акорд свята будзе гучаць тады, калі хлопчыкі і дзяўчынкі падрыхтуюць добрыя словы і падарункі мамам і настаўніцам. Сотні тысяч маленькіх грамадзян Краіны Саветаў правядуць пачатак сакавіка на арбіце музыкі.*



ГУЧЫЦЬ РАХМАНІНАЎ.

Фота Ул. КРУКА.

# КЛЮЧ

**17 лютага**

*«Ад калектыву будаўнічага трэста № 20 і арганізацый, якія ўдзельнічалі ў будаўніцтве палаца хімікаў — калектыву завода штучнага валакна, працоўным горада Светлагорска. Снежань 1972 года».*

Такі надпіс зроблены на вялікім ключы, які ўручыў начальнік будаўнічага трэста № 20 дырэктару новага палаца.

Будаўнікі «палохалі» дырэктара: «Рыхтуйся, Уладзімір Рыгоравіч, на 80 кілаграм ключык адгрохаем!» Пажартавалі... Лёгкі ён, ключ, нягледзячы на памеры. Лёгкі і прыгожы. Стаіць зараз гэты ключ у дырэктарскім кабінеце — хто ні зойдзе, адразу бачыць...

Урачыстым было адкрыццё новага палаца. І хоць вялікую залу запраектавалі архітэктары — на 800 месцаў — шмат жадаючых патрапіць на першы вечар у новым палацы засталося «за бортам». Можа і пакрыўдзілі каго... Будавалі ж палац не толькі рабочыя з 20-га трэста — на працягу апошніх двух год штодзённа прыходзілі працаваць на будоўлі заводскія камсамольцы. І кожны з іх, безумоўна, меў права на запрашальны білет. Але што зробіш — зала не гумавая...

**Тым жа, хто патрапіў 17-га лютага на ўрачыстае адкрыццё, скажам шчыра, пашанцавала! Па-сапраўднаму цікавым і радасным быў той вечар. Не тушам сустракалі мінскіх, гомельскіх, чарнігаўскіх, магілёўскіх, маскоўскіх, сваіх, нарэшце, светлагорскіх гасцей гаспадары палаца — высакародна і проста гучала ў той вечар чароўная музыка Рахманінава, Шумана... А калі адкрылася заслона, загучаў Першы канцэрт Чайкоўскага. Пагасла святло. Замільгалі на экране кадры, якія адзнялі заводскія кінааматары. Вось ён, палац... Вось так ён будаваўся... Зашумела зала — многія ўбачылі сябе, пазналі сяброў. А потым на сцэну падняўся інжынер Валерый Ахлесцін, які вёў вечар, узяў у рукі мікрафон і пашыбаваў проста ў залу. Штосьці накшталт імправізаванага інтэрв'ю атрымалася. Інтэрв'ю з усёй залай, бо шмат хто тады выступаў — і першы прараб будоўлі Г. Чарэй, і сакратар райкома партыі П. Шапкін, і сакратар заводскага прафкома Ф. Царык, і галоўны архітэктар праекта палаца Б. Шлосберг, і прадстаўнікі субпадрадных арганізацый, камсамольцы завода — па сутнасці, кожны хто хацеў. І кожнаму дарылі кветкі. У кветках недахопу не было — свае ж, з заводскай аранжарэі.**

І — кульмінацыя!

На сцэну ўзышлі начальнік будаўнічага трэста № 20 В. Буткевіч і з ім двое лепшых рабочых трэста — прынеслі ключ. Два дырэктары ім насустрач — завода штучнага валакна М. Дзяменка і новага палаца — У. Громаў.

— Вельмі мы ўсе хваляваліся тады, — успамінае У. Громаў.

Ды гэта і не дзіўна. Хормайстар па адукацыі, ён жартам сцвярджае, што зараз не сыграе і гамы: «Развучыўся за апошні год, столькі выпала беганіны, клопатаў, столькі сіл і часу ўзяў палац...»

І вось стаіць ён — палац прыгожы, строгі, вялікі і па памерах і па магчымасцях. Вее ад яго свежасцю, святочнасцю. Вабіць ён да сябе.

І як усё вялікае, ён мае інерцыю. Цяжка зварухнуць з месца і разагнаць да рабочай хуткасці яго магутны механізм. Павольна набірае палац ход. Шмат, шмат яшчэ наперадзе клопатаў і ў дырэктара Уладзіміра Рыгоравіча Громава, і ў адміністратара Нэлі Сяргееўны Качан, і ў гаспадарніка Сцяпана Сцяпанавіча Кавальчука — ва ўсіх сарака пяці чалавек адміністрацыйна-тэхнічнага персаналу.

**21 лютага**

«Вялікі баль. Адкрыццё танцавальных вечароў». Гэта — першая афіша палаца. Планаваўся баль на 18-е лютага, ды раптам высветлілася — трэба ж! — што няма яшчэ ў палаца білетаў. Не падбалі своечасова, рукі не дайшлі. Прыйшлося Нэлі Сяргееўне ехаць па іх у Гомель, а баль пераносіць на сераду. Не лепшы дзень для такога мерапрыемства, але надалей адкладаць нельга.

— Не збярэцца народ, — уздыхаў У. Громаў. — Хто ж прыйдзе ў будзённы дзень?..

Аднак народ сабраўся. Народ малады, без забабонаў, яму і ў будзённы дзень танцаваць гэтак жа прыемна, як і ў свята. У танцавальнай зале шумнавата — чакаюць. Малавата занеслі сюды з першага паверха мяккіх дываноў, прысесці ўжо некуды — зноў парушыў разлікі энтузіязм моладзі...

**Я гляджу навокал. Зала ўтульная, нейкая нават хатняя, свая. Дрэва, дрэва... Шмат дрэва. Ім абшыты сцены, паверхам ніжэй у драўляныя пліты забраны калоны. Гэта надае памяшканням утульнасць, камернасць, робіць іх інтанацыі мяккімі, спакойнымі. Невысокая столь танцавальнай залы кожным сантыметрам выпра-**

# ШЧАСНАЯ

БАЦЬКА НАШ НЁМАН... — гаворыцца ў песні. А тут, на Уздзеншчыне, каля Прысынку, ён зусім не падобны на паважнага бацьку. Хутчэй за ўсё на гарэзлівага, свавольнага падлетка. Прагрэты і высветлены гарачымі промнямі сонца, ён пяшчотна лашчыцца да берагоў. І нібы ў адказ на яго ласку берагі. надарылі яго на дзіва чароўнымі краявідамі. Павольныя хвалі, вызалачаныя сонцам палі, ледзь чутны дотык ветру з тонкім водарам спелых яблыкаў.

Шчаслівыя, мабыць, людзі, што жывуць тут, ля берагоў Нёмана.

Але шчасце не выпадае ўсім пароўну.

...Лёс не шкадаваў Паўла Іванавіча. З дванаццаці гадоў пайшоў ён на свой хлеб: Пасвіў жывёлу. Рос цікаўным хлапчуком. Тонка ўспрымаў мелодыі галасістых прысынкаўскіх салаўёў, шэпт спелых жытнёвых каласоў, чароўныя жніўныя песні, што спявалі жанчыны ў полі. Пазней, калі крыху падрос, Павел пачаў цяслярыць.

Неяк стругаў ён бервяно. Нечакана з-пад сякеры выскачыла трэска і... Шэрыя клубы туману паплылі перад вачыма. Павел паспрабаваў расплюшчыць павекі, але дарэмна... Змрок ахутаў яго. Шэры туман ператварыўся ў чорную пляму. Юнак зразумеў, што здарылася няшчасце. У семнаццаць гадоў застаўся без вока. Але бяда не прыходзіць адна — перастаў ён бачыць і на другое вока. І гэта ў маладыя гады. Не хацелася думаць, марыць, нават жыць. Але сябры не пакінулі ў бядзе. Вялікае шчасце сустрэць на шляху добрых сяброў. І дабрата дабраце не роўная. Ёсць дабрата жаласлівая, яна расслабляе. Ёсць дабрата патрабавальная, без скідак на цяжкасці. Гэтая дабрата якраз і ставіць на ногі чалавека, вяртае веру, любоў да жыцця. З такою і сустрэўся Павел. Па просьбе сяброў яго накіравалі на лячэнне. Больш за год чараваў прафесар. Апошняя аперацыя прайшла паспяхова. Калі на імгненне знялі павязку, юнак ад радасці нават ускрыкнуў:

— Бачу святло!

— Зараз убачыце і ўсё астатняе.

Голас хворага абарваўся ад хвалявання:

— Бачу лямпачкі!!!

— Колькі іх? — пытае прафесар.

— Многа!

— А вы супакойцеся, палічыце.

— Пяць!

— Правільна.

На вока зноў накладваецца павязка. Толькі на некалькі дзён. Апошнія дні цемнаты.

І вось неўзабаве, агледзеўшы хворага, прафесар загадаў сястры зняць павязку. Убачыўшы дзённае святло, Павел закрыў рукамі вочы. Пасля ён адняў далоні, прагна абвёў поглядам пакой, усё яшчэ не верачы ў цуд. Паглядзеў на ўрачоў, падышоў да акна.

— Бачу! Сапраўды, бачу святло!!! — закрычаў ён.

І на яго густых цёмных вейках заблішчэлі слёзы. Гэта былі слёзы вялікага, невыказнага шчасця!

Усё-такі зберагчы ўдалося хлопцу толькі пяць працэнтаў зроку. Вось такім юнак і вярнуўся ў сваю родную вёску Прысынак.

Нямала часу мінула з той пары. І ўжо час пасерабрыў валасы ды сабраў маршчынкі каля вачэй.

У Прысынку Паўла Шыдлоўскага добра ведаюць, як самадзейнага кампазітара, стваральніка новай песні,

# АД КРАІНЫ СВЯТА

*РЭПАРТАЖ АБ ПЕРШЫХ ТРОХ ДНЯХ РАБОТЫ ПАЛАЦА КУЛЬТУРЫ ХІМІКАЎ У СВЕТЛАГОРСКУ*

**меньвае святло. Я думаю пра тое, што тут будзе гучаць дынамічная сучасная музыка, і разумею, што яна будзе патрабаваць ад інтэр'ера залы своеасаблівай вастрыні, «канфліктнасці». Заўважаю, што праекціроўшчыкі падумалі і пра гэта. Доўгія лініі роўных плоскасцей, перакрыжоўваючыся, ствараюць настрой бадзёрасці. Строгія прамыя куткі скрыжаванняў выглядаюць дынамічна.**

**Дарэчы, архітэктары вельмі ўдала прадумалі і не толькі інтэр'ер танцавальнай залы. Кожнае памяшканне новага палаца па сваім настроі дакладна адпавядае яго функцыі. Нават лесвіцу яны зрабілі своеасаблівым эмацыянальным акцэнтам будынка. Адчуванне святочнай прыўзнятасці ахоплівае ўжо з першых крокаў па ёй. Плаўныя, урачыстыя маршы, чысты белы колер у спалучэнні з багаццем металічнага аздаблення рыхтуюць наведвальніка да лагічнага завяршэння — да сустрэчы з утульнай і прыгожай залай.**

...Загучала музыка. Прыглядаюся да хлопцаў — не, не да месца тут будуць мясцовыя «каралі» танцавальных пляцовак у расшпіленых кашулях, пакамечаных пінжаках, з бруднымі доўгімі валасамі. Палац патрабуе элегантнасці, ён дысцыплінуе, падцягвае. Ніякавата ў гэтай зале таўчыся на месцы ў той пародыі на сучасныя танцы, якая пакуль што даволі распаўсюджаная на нашых танцавальных вечарах. Палац яўна апярэджвае сваіх наведвальнікаў, прымушае іх іншымі вачыма глянуць і на сябе і на свайго суседа. Ну, што ж! Гэта вельмі добра. Гэта проста цудоўна! Хочацца спадзявацца, што праз некаторы час танцаваць у гэтай элегантнай зале будуць не так, як сёння, зразумеюць маладыя хлопцы і дзяўчаты, у чым сапраўдная прыгажосць танца, навучацца быць элегантнымі і прыгожымі.

— Не маем права дрэнна працаваць у такім палацы! — прымаючы ключ, сказаў дырэктар У. Громаў. Так, працаваць тут трэба выдатна...

Спускаюся ўніз. Праходжу праз холы, фае. Любуюся прыгожымі пано, трапным аздабленнем.

Лепшыя беларускія мастакі-манументалісты працавалі над аздабленнем палаца. Г. Вашчанка, А. Паслядовіч, С. Салохін, В. Сахненка, У. Стальмашонак стварылі прыгожыя, у меру стылізаваныя, «лёгкія» па настроі пано, якія вельмі ўдала спалучаюцца з іншымі дэталямі інтэр'ераў.

Уражвае пано «Прадзільшчыца» Г. Вашчанкі. Прываблівае багатая разьба на калонах і па сценах.

Праходжу у буфет. З-за століка махае рукой Нэлі Сяргееўна. 17-га пасля ўрачыстага адкрыцця яна пайшла дадому а чацвёртай раніцы —наводзілі з тэхнічкамі парадак. Па ўсяму адчуваецца, што Нэлі Сяргееўна не проста адміністратар —гаспадыня палаца. Тут яе праца, яе адпачынак, яе радасць. Увесь час, калі яшчэ нават працавала на заводзе штучнага валакна, цягнулася да такой работы. Сюды заводскі камітэт рэкамендаваў яе, як чалавека, аператыўнага, з аганьком. І яна задаволеная — праца цяжкаватая, але па душы.

Калі яна пойдзе дамоў сёння?..

**22-га лютага...**

— Пераязджаеш у новую кватэру, — усміхаецца дырэктар, — пачынай дзіркі ў сценах круціць... Так і тут, толькі дзірак паболей.

Недаробкі, вядома, засталіся і ў палацы. Ёсць пра што падбаць руплівaму гаспадару.

Але не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што ёсць палац. З 82 памяшканнямі, з карыснай плошчай у 5 700 квадратных метраў, у якіх размешчана практычна ўсё. Ёсць нават спартыўная зала са светлавым табло, прадметам асаблівага гонару дырэктара.

— Мы павінны стаць сапраўдным апорным пунктам культурнага жыцця не толькі горада, але і раёна, вобласці, — гаворыць мастацкі кіраўнік палаца Юрый Вітальевіч Лундзін.

**Ю. Лундзін кіраваў на заводзе штучнага валакна маладзёжным агітансамблем «Аптыміст». Цяпер штаб-кватэра «Аптыміста» перабярэцца ў палац. Пяройдзе сюды і студыя чытальнікаў, і вакальны ансамбль «Светлагорскія дзяўчаты» — цікавы, арыгінальны калектыў, які мае ў сваім рэпертуары шмат уласных песень. Добрую базу атрымаюць, нарэшце, заводскія кіна- і фотааматары. Будзе раздольна і дзіцячаму сектару.**

**Усё гэта ўжо было, існавала. Але палац — гэта і шмат новых магчымасцей. Якія ж планы ў мастацкага кіраўніка?**

**Задумы у Юрыя Вітальевіча маштабныя.**

**— Малавата для палаца аднаго «Аптыміста». Патрэбна нешта больш сур'ёзнае. Арганізуем драмкалектыў. Хочам пачаць з сур'ёзных твораў. У партфелі «А зоры тут ціхія...», «Зацюканы апостал»...**

**Арганізуем аркестр народных інструментаў, студыю сольнага спявання. Марым пра студыю цыркавога мастацтва, калектыў гітарыстаў. Не, не біт-групу, іх і так хапае, а класічны гітарны ансамбль. І бальным танцам трэба моладзь вучыць...**

Цяжкавата аднак гэтыя задумы рэалізаваць — кадры, кадры... Адвечная праблема раёна. Зрэшты, Ю. Лундзін чалавек энергічны, кагосьці ён запрыкмеціў, кагосьці ўжо запрасіў...

...З процілеглага боку вуліцы палац глядзіцца нават невялікім. Не адразу і здагадаешся, што пабудаваны ён гіганцкай літарай «П». У дворыку, які размешчаны ўнутры гэтай літары, сёння яшчэ нічога няма, але вясной тут будзе разбіты сад, лягуць каменныя пліты, заструменяць фантаны. А праз нейкі час празрысты дах накрые дворык і сад стане аранжарэяй — прынамсі, так было задумана галоўным архітэктарам праекта Л. Анікінай.

Сёння яшчэ не чуваць у палацы фартэпіянных гам, вясёлага перастуку абцасаў, магутных раскатаў хору — усё ў палаца наперадзе. Але ўжо і сёння бачна, што чакае яго вялікае і вельмі цікавае плаванне ў краіну весялосці, радасці, свята.

**М. КАЛОМЕНСКІ.**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

# ПЯЕ БАЛАЛАЙКА...

Рэдка які канцэрт самадзейнага калектыву Бераставіцкага раённага дома культуры абыходзіцца без выступлення балалаечніка, карэспандэнта-арганізатара мясцовага радыёвяшчання Анатоля Качана. А кожнае яго выступленне суправаджаюць самыя шчырыя апладысменты.

Любіць Анатоль балалайку. І менавіта гэтая любоў прымусіла яго задумацца, ці нельга ўдасканаліць традыцыйны народны інструмент, ці нельга расшырыць яго магчымасці?

На дапамогу прыйшла... электроніка. Праўда, першая балалайка, якую зрабіў А. Качан, была хутчэй электрычнай, і па прынцыпу нагадвала электрагітару. Канструяваў яе Анатоль паўтара года, а каб зламаць, спатрэбілася ўсяго пяць мінут. І зноў усё пачалося спачатку. Другая балалайка Качана была зроблена па ім самім прыдуманай складанай схеме. Быў нават прадугледжаны мініяцюрны электрарухавік для механічнага медыятара...

І з другім варыянтам прыйшлося развітацца: надта ж груваскі, няскладны атрымаўся інструмент.

На трэцюю балалайку пайшло яшчэ два гады. У новага інструмента свой прыгожы «голас». Ён аднолькава добра гучыць і ў складзе аркестра народных інструментаў і з сучасным эстрадным інструментальным ансамблем. Выдатна паказала сябе балалайка Анатоля і як саліруючы інструмент.

Балалайка — складаная па схеме і разам з тым вельмі кампактная. У электронную схему ўключана спецыяльная клавішная станцыя, якая дазваляе запраграміраваць змену тэмбру на час гучання мелодыі.

Зробленая з розных парод дрэва, пакрытая яркімі эмалямі і лакамі, якія ўдала спалучаюцца з матавым бляскам тэмбравай клавіятуры, балалайка і знешне вельмі прыгожая. Унікальны інструмент экспанаваўся на раённай і абласной выстаўках народнага прыкладнога мастацтва.

А Анатоль зноў сядзіць над схемамі. Значыць, будзе яшчэ і чацвёрты варыянт. Будзе яшчэ адна балалайка.

**П. АБРАМОВІЧ,**
**Бераставіцкі раён.**

# ДОЛЯ

арганізатара першага калгаснага хору. Успамінаючы той далёкі час, Павел Іванавіч расказвае:

— У дваццаць восьмым годзе, яшчэ будучы камсамольцам, я аб'яднаў вясковую моладзь у гурток мастацкай самадзейнасці. А крыху пазней арганізаваў калгасны хор. Пісаў для яго песні, апрацоўваў народныя мелодыі.

...Змяркаецца. Неба на гарызонце палыхае чырванню. Промні вечаровага сонца зіхацяць на гладкім люстэрку ракі.

Мернай хадою першым да клуба ідзе Шыдлоўскі. Ён заклапочаны, але нешта ледзь чутна напявае пра сябе.

У клубе паступова збіраюцца людзі. Даяркі, свінаркі і цялятніцы ў лакіраваных белых боціках, у модных паліто. Сёння ідзе рэпетыцыя.

Павел Іванавіч развучвае з самымі галасістымі спевакамі новую песню. У другім кутку займаецца танцавальная група.

Часам напружаная работа перапыняецца размовамі пра народную песню, пра любоў да роднага краю...

Павел Іванавіч Шыдлоўскі апаэтызаваў яго ў сваіх лірычных песнях. Яго песняй «Прывітальная Маскве» адкрываліся дэкады беларускага мастацтва ў сталіцы нашай Радзімы. Шмат змястоўных песень стварыў самадзейны кампазітар. Любіць іх моладзь. «Калгасная веснавая», «Працавалі дзеванькі», «Жніўная», «Гэй, у нашым ціхім лузе», «Слаўся, партыя!» трывала ўвайшлі ў рэпертуары самадзейных калектываў. Ганарыцца Павел Іванавіч калгасным хорам, выдатнымі яго спевакамі. Звонкія галасы Вольгі Клімовіч, Зіны і Віктара Шыдлоўскіх гучаць па ўсёй Уздзеншчыне.

— Шмат песень мы праспявалі, — гаворыць Павел Іванавіч, — але яшчэ многа не спета. Чаму? А таму, што жыццё было ў нас такое.

...Штогод вясною над Прысынкам кружыліся буслы. Яны кружылі і лёталі над зялёным лугам, праносіліся над гаем, лёгка планіравалі на буслоўні. Белыя прыгажуны ў чырвоных ботах прылятали і адляталі, толькі ён, Павел Іванавіч, заставаўся ў родным гняздзе. Купаўся ў рачулцы, якая ўпадала ў Нёман, вясною ласаваўся бярозавікам. Марыў паехаць вучыцца ў музычнае вучылішча.

Ды раптам у Прысынак прыляцела трывожная вестка: вайна! А неўзабаве ў вёску ўварваліся і гітлераўцы. Марудна пацягнуліся трывожныя, поўныя небяспекі дні і месяцы ў варожым тыле.

Трывожна стагнаў за сцяной у тую, другую ваенную восень вецер, жахліва завываў у коміне.

Такім вечарам Шыдлоўскі пакінуў роднае гняздо. Ён становіцца лясным салдатам, хаця і не можа трымаць у руках зброі.

Па заданні камандавання партызанскі разведчык хадзіў у Узду, бліжэйшыя вёскі, насельныя пункты і прыносіў каштоўныя звесткі з варожых гарнізонаў. У вёсках рэгулярна з'яўляліся лістоўкі, якія расказвалі аб становішчы на франтах, заклікалі на барацьбу з фашыстамі. Баявыя аперацыі праходзілі адна за другой. Амаль кожны дзень чуліся выбухі. Тол, дастаўлены Шыдлоўскім, узрывае мост праз раку. Загінула шмат нямецкіх салдат і афіцэраў.

Гітлераўцы збіліся з ног у пошуках няўлоўных. Паўсюды шнырылі шпікі. Аднойчы ім удалося натрапіць на след...

Фашысты з'явіліся ў вёску раптоўна. Якраз у гэты момант разведчык вяртаўся ў партызанскі атрад з чарговага задання ад вясковага падпольшчыка.



— Партызан! Бандыт! — з'едліва ўсміхнуўшыся, закрычаў афіцэр.

Гітлераўцы схапілі Шыдлоўскага, скруцілі яму рукі. У камендатуры яго доўга катавалі, патрабавалі назваць прозвішчы падпольшчыкаў, сувязных і выдаць явачныя кватэры. Але разведчык маўчаў.

Выратавацца ад смерці Шыдлоўскаму ўдалося выпадкова. Якраз у час чарговага допыту ў пакой да следчага зайшоў нямецкі доктар. Пагледзеўшы на палоннага, ён тут жа нешта сказаў рыжаму афіцэру. Той адразу адсунуў нейкія паперы, што ляжалі перад ім на стале, і моцна закрычаў:

— Хворы?! Вон адсюль!

Шыдлоўскага адпусцілі. Фашысты, мабыць на самай справе палічылі яго хворым на нейкую заразную хваробу.

А Павел Іванавіч зноў помсціў. Помсціў трапным і калючым словам, пякучай песняй. Яго вершы і песні перад боем спявалі лясныя салдаты. Яны натхнялі і вяскоўцаў на барацьбу з ворагам.

А як толькі гітлераўцы былі выгнаны з роднай зямлі, Шыдлоўскі адразу вярнуўся дамоў. Над Уздзеншчынай зноў паплылі вясёлыя, радасныя песні, якія ўслаўлялі свой кут — старонку, дзе пясняр нарадзіўся і рос.

**Такога ў свеце не знаю,**
**Як наш, прыгажэйшага краю.**
**Звіняць лугі, шумяць лясы**
**І ніў залатых каласы...**

Гэта радкі з яго твора «Песня пастухоў».

...Паўла Іванавіча любяць і паважаюць за добры характар і здольнасці ўсе вяскоўцы. Як маладыя дрэвы сваімі вершалінкамі цягнуцца да сонца, так заўсёды да яго ідуць і ідуць людзі. Па тым, як слухаюцца яго дарослыя і дзеці, як лічацца з яго думкай, зразумела: здолеў, як кажуць, ён адшукаць сябе. Выстаяў. А ўсё гэта таму, што чалавек ён моцнай волі і духу.

У Прысынку, дзе кожная сцяжынка вядзе ў гасцінны двор, Павел Іванавіч — жаданы госць. Як да сябра, да яго прыязджаюць артысты, паэты, кампазітары. Прыемна пагутарыць з шчырым чалавекам, душэўным і багатым душой.

Павел Іванавіч не дужа стараецца расказваць пра сваё жыццё, а больш гаворыць пра песні, пра цікавых і працавітых людзей, якія жывуць на Уздзеншчыне.

— У самыя цяжкія для мяне гады пераадолець роспач, прымусіць ачуняць ад гора дапамаглі сябры. Дапамаглі гэтаму і песні. Цяпер свет без песні для мяне не існуе. А калі пераношу ў новую песню ўсё, што адчуваю і бачу, — я шчаслівы, — гаворыць Павел Іванавіч.

Шыдлоўскі — чалавек грамадскі. Ён — дэпутат райсавета, член партбюро і праўлення калгаса. І ўсюды паспявае, спраўляецца, выконвае ўсе даручэнні добрасумленна, з душой.

Вось ён ідзе па вуліцы. Людзі пры сустрэчах спыняюцца, ветліва ківаюць яму галовамі і нізка кланяюцца. Нічога не скажаш, Шыдлоўскі заслужыў такую павагу.

**В. ПАДАЛЯКА.**

# ЭРОЗІЯ

А ДРУГОЙ гадзіне ночы 9 верасня 1972 года вёску Мачулішчы Крупскага раёна пабудзіў жаночы лямант.

— Ратуйце, бандыты лезуць!

Лямант даносіўся з дому, дзе жыве Агафья Агафонаўна Кляшчонак — удава-пенсіянерка. Праз хвіліну суседзі пачулі некалькі стрэлаў, хаця, як яны пасля паказвалі следчаму, ім падалося, што гэта нехта з трэскам адрывае дошкі ад плоту.

Адна з суседак, так-сяк апрануўшыся, выскачыла з дому і пабегла да Кляшчонкаў. На двары яна ўбачыла, як двое мужчын валакуць па зямлі чыёсьці цела. Адзін з іх падняў галаву і, задыхаючыся, вымавіў:

— Забілі нашага выкладчыка... Міша Кляшчонак застрэліў... Хутчэй доктара...

...Днём 8-га верасня прайшла навальніца, бульбянае поле моцна намачыла і студэнтам, якія тут працавалі, дазволілі раней пайсці дамоў.

Да двух студэнтаў — Вікенція Мухі і Валерыя Арлоўскага — падышоў іх выкладчык, кіраўнік групы Яўгеній Мікалаевіч Увараў, высокі, малады яшчэ чалавек у акулярах.

— Якія, хлопчыкі, планы на сёння?

Муха і Арлоўскі зірнулі адзін на аднаго, няўпэўнена сцепанулі плячыма.

— Хто яго ведае, — сказаў Муха. — Учора хадзілі ў суседнюю вёску, дык гаспадыня потым злавалася, што прыйшлі позна. Відаць, дома пасядзім, у карты перакінемся...

— А мяне возьмеце ў кампанію? Павячэраем разам, пагаворым, а ў мяне вунь што ёсць... — Увараў расшпіліў куртку, паказаў бутэльку ва ўнутранай кішэні. — З Мінска вёз, ды аднаму нешта не ахвота...

Яны пайшлі ў хату, дзе кватаравалі Муха і Арлоўскі, і, як потым расказваў на судзе Муха, «добра пагутарылі за бутэлькай гарэлкі, бо Увараў эрудзіраваны чалавек і яго цікава слухаць...»

Тым часам ужо добра сцямнела...

З ПРАТАКОЛА судовага пасяджэння выязной сесіі судовай калегіі па крымінальных справах Мінскага абласнога суда, 6 лютага 1973 года, г. Крупкі.

**Суддзя:** Кляшчонак, раскажыце суду, як Увараў, Муха і Арлоўскі апынуліся ў вашай хаце ў ноч з восьмага на дзевятае верасня мінулага года?

**Кляшчонак:** Я сам у Мінску жыву, працую на заводзе імя Вавілава. Але на выхадны дзень прыязджаю да маці і сястрычкі ў Мачулішчы. У тую пятніцу, 8-га верасня, я прыехаў апошнім аўтобусам недзе ў адзінаццатай гадзіне вечара. Іду па вуліцы і раптам бачу, як у садку нехта свеціць ліхтарыкам. Ну, думаю, залезлі, відаць, падлеткі ў чужы сад па яблыкі. Падышоў да плота і крыкнуў, каб спалохаць іх. Бачу, пераскочылі цераз плот тры чалавекі і падыходзяць да мяне. Адзін — высокі, у акулярах, двое ростам ніжэйшыя. Той, што ў акулярах, спытаў, хто я і куды ён пытаецца, што я нясу ды ён пытаецца, што я нясу, і ці няма ў мяне гарэлкі. Я сказаў, што няма. «А мы, — кажа, — самі праверым». Узяў у мяне з рук сумку і пачаў там шукаць. Вёз я сястрычцы чатыры шакаладкі, дык ён дзве ўзяў і аддаў хлопцам, што былі з ім. Хацеў узяць і транзістарны прыёмнік, ды я папрасіў, каб не чапаў. Праўда, паслухаўся...

Дамоў прыйшоў недзе ўжо а дванаццатай гадзіне. Маці паставіла на стол вячэру, наліла ягаднай бражкі. Я расказаў, што мяне спынілі на дарозе трое незнаёмых і абшукалі. Сястрычка тады і кажа, што ў вёску прыехалі студэнты капаць бульбу, дык, можа, хто з іх пажартаваў.

Выпіў я дзве шклянкі бражкі і рашыў пайсці ў адведкі да дзядзькі, ён жыве побач. Пайшлі ўдваіх з сястрой. Але ў дзядзькавым доме было цёмна і мы павярнулі назад дахаты. Па дарозе бачу я нейкага хлопца з дзяўчынай. У ім пазнаў аднаго з тых траіх, што якую гадзіну назад перахапілі мяне на вуліцы і забралі дзве шакаладкі. Я адвёў яго ўбок і спытаўся, ці гэта ён там быў? «Так — кажа, — я». «Вы, — кажу, — шукалі гарэлку, дык хадземце да мяне ў госці, пачастую добрай бражкай. І сяброў сваіх бярыце». А тут і яны падышлі, таго высокага ў акулярах я адразу пазнаў...

**Суддзя:** Пацярпелы Муха, у той вечар вы лазілі ў сад?

**Муха:** Т-так... Па суседстве з нашым домам быў сад, мы адарвалі некалькі дошак ад плота і туды залезлі. Узялі не больш дзесятка яблыкаў.

**Абаронца Кляшчонка:** Скажыце, Муха, вы забраліся ў сад з дазволу яго гаспадара?

**Муха** (апусціўшы галаву): Вядома, не... Але што датычыць усяго астатняга, дык гэта хлусня, я ўбачыў Кляшчонка ўпершыню, калі ён падышоў на вуліцы і запрасіў у госці.

**Суддзя:** Працягвайце, Кляшчонак.

**Кляшчонак:** Калі мы прыйшлі дахаты, была першая гадзіна ночы. Я пабудзіў маці і папрасіў яе сабраць тое-сёе на стол, бо прыйшлі госці. Ёй гэта, вядома, не спадабалася, пачала бурчэць, што госці па начах не ходзяць. Але на стол паставіла выварку, у якой была бражка, і мы пачалі піць. Выпілі па некалькі шклянак. Не памятаю з-за чаго ў нас пачалася сварка. Маці закрычала, каб тыя студэнты пакінулі хату, бо на двары ноч і яна хоча спаць. Яшчэ сказала ім, што будзе скардзіцца студэнцкаму начальству. Але Увараў адказаў, што ён сам, маўляў, начальнік.

Я падышоў да дзвярэй, расчыніў іх і загадаў, каб госці выматваліся. Хлопцы пайшлі, і я зачыніў за імі дзверы на крук. Але праз якую пару хвілін пачуўся звон шкла, і я ўбачыў, што з вакна вылецела шыба. Маці пачала крычаць, што гэта бандыты і што яны нас заб'юць. «Бяры, — кажа, — Міша, пісталет і страляй». Я схапіў пісталет з тумбачкі і, расчыніўшы акно, некалькі разоў стрэліў у цемру. У гэты момант нехта пачаў грукаць у дзверы. Я выйшаў у сенцы і крыкнуў, каб ішлі прэч, бо буду страляць. Але, грукат працягваўся — і я, не адчыняючы дзвярэй, стрэліў. Стала ціха, а пасля са двара пачуўся крык, што я забіў чалавека...

**Суддзя:** Пацярпелы Арлоўскі, што было пасля таго, як вы пайшлі з хаты Кляшчонкаў?

**Арлоўскі:** Калі мы пайшлі, маці Кляшчонкава працягвала крычаць на ўсю вёску, што мы бандыты і што яна будзе скардзіцца. Тады Яўгеній Мікалаевіч сказаў, што трэба вярнуцца і папрасіць прабачэння, бо могуць быць непрыемнасці. Вярнуліся. Калі праходзілі міма вакна, Увараў спатыкнуўся і незнарок выціснуў шыбу. Тут мы ўбачылі, як да вакна падышоў Кляшчонак і пачаў страляць. Мы ляглі на зямлю. Тады Увараў і кажа, што ў яго першы разрад па самба, ён пойдзе і супакоіць гэтага стралка. Яўгеній Мікалаевіч ускочыў і пабег да ганка. У гэты момант пачулася яшчэ некалькі стрэлаў. Мы пачалі клікаць Уварава, але ён не адгукаўся. Тады мы з Мухам падпаўзлі да ганка і ўбачылі, што Яўгеній Мікалаевіч ляжыць нерухомы... Адцягнулі яго, расшпілілі кашулю, убачылі кроў на левай палове грудзей...

Чытач, мабыць, паспеў заўважыць — усё, што здарылася той цёмнай вераснёўскай ноччу, не ўражае складанай фабулай. Не было патрэбы пасля следчым поўзаць па зямлі ў пошуках слядоў, здымаць з рэчаў адбіткі пальцаў, адным словам, праводзіць дзесяткі таямнічых для недасведчанага чалавека крыміналістычных маніпуляцый, якія так цешаць аматараў дэтэктыўных гісторый. Міліцыя, якая раніцой прыехала па забойцу, адразу ведала «хто ёсць хто».

І тым не менш, ад той «яснасці», ад лёгкасці, з якой згарэла, нібы запалка, жыццё чалавека, мароз па скуры бяжыць.

Давайце, гаворачы мовай кіно, яшчэ раз «пракруцім стужку» і пільна ўгледземся ў аблічча кожнага з удзельнікаў гэтай трагедыі.

МІХАІЛ КЛЯШЧОНАК. 26 гадоў. Адукацыя 6 класаў. Працаваў токарам-рэвальвершчыкам на мінскім заводзе імя Вавілава. Невысокі, каржакаваты. Звычайны, нават у нечым сімпатычны твар. На пытанні суддзі і пракурора адказвае спакойна і разважліва.

Адкуль у яго зброя? Некалькі гадоў назад вымяняў у прыяцеля за гадзіннік малакаліберную вінтоўку. Вінтоўка аказалася не вельмі ўдалай. Тады рашыў зрабіць з яе пісталет. Дэталі для пісталета вытачыў у цэху на сваім станку...

Пра тое, што ў Кляшчонка ёсць баявая зброя ведалі ў вёсцы многія. Скажам, яго сябрук Мікалай Кляшчонак, якому ён даваў пісталет пастраляць.

Не ведалі пра ўсё гэта толькі тыя, каму належыць ведаць. Скажам, той самы ўчастковы міліцыянер...

Аказваецца, больш за ўсё ў жыцці Кляшчонак любіў страляць. Кожны раз, калі прыязджаў дамоў, вымаў са скрыні, дзе ляжалі розныя хатнія рэчы, пісталет, старанна змазваў яго і выходзіў у двор пастраляць. Страляў у дзверы хлява, у плот, у дрэвы, проста ў неба...

А ў тую страшную ноч, не раздумваючы, пачаў страляць у людзей. Каб лепш пацэліць, загадаў сястрычцы патушыць святло ў хаце і падаць яму ліхтарык. Тым ліхтарыкам падсвечваў і страляў. А калі з вуліцы пачалі крычаць, што ён забіў чалавека, — не выйшаў, не дапамог. Лёг на ложак і праспаў да раніцы, пакуль не прыехала міліцыя.

ВІКЕНЦІЮ МУХУ і Віталію Арлоўскаму, студэнтам аўтатрактарнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута — гадоў па дваццаць. З выгляду звычайныя піжоністыя хлопчыкі — модныя прычоскі, бакенбарды (але ў меру), добра апрануты.

Па суду абодва студэнты праходзілі пацярпелымі. Ну, што ж, была ў гэтым пэўная рацыя, бо і яны рызыкавалі жыццём, па-пластунску поўзалі пад кулямі. Расказвалі пра гэта Муха і Арлоўскі вельмі красамоўна, даючы дзеючым асобам трапныя характарыстыкі.

Калі Увараў, паводле іх слоў, «сапраўдны інтэлектуал», дык маці Кляшчонка — вар'ятка, бо яна падняла гвалт на ўсю вёску. Тое, што яны разам з «інтэлектуалам» ноччу паднялі з ложка старую жанчыну і пачалі піць віно ў чужой хаце, мабыць, здалося ім проста забаўным здарэннем, пра якое заўтра можна будзе з гумарам расказаць таварышам.

Якія яны тут на судзе мілыя, дасціпныя, інтэлігентныя! Толькі, дальбог, нейкая дзіўная гэтая інтэлігентнасць. Нібы кашуля, якую захацеў — зняў, захацеў — апрануў. Відаць, калі Муха гаворыць пра высокія матэрыі — заслухаешся. Але, цікава, пра якія матэрыі думалася яму, калі лез у чужы сад (як паказала на судзе сведка-гаспадыня саду, там былі так патаптаны грады, нібы прабег па іх табун коней).

Нам хацелася сустрэцца з Мухам і Арлоўскім яшчэ да суда, але ніяк не выпадала. Аднойчы мы пазванілі ў дэканат, каб дамовіцца аб сустрэчы, але жаночы голас раздражнёна параіў пакінуць хлопцаў у спакоі, бо яны «ад усіх гэтых перажыванняў завальваюць сесію».

У перапынку судовага пасяджэння мы спачувальна пацікавіліся ў хлопцаў, якія экзамены яны завалілі? І адзін, і другі вельмі здзівіліся. Аказалася, што Муха ўсё здаў на выдатна, ён наогул усе гады круглы выдатнік, а ў Арлоўскага таксама ўсё ў парадку — «хвастоў» няма.

Што ж гэта вельмі цешыць. Вядома, першы абавязак студэнта — добра вучыцца. І ўсё ж тая тэлефонная размова з ананімным абаронцам Мухі і Арлоўскага пакінула горкі асадак.

Успомнілася гісторыя, пра якую аднаму з нас давялося пісаць. У тым жа політэхнічным інстытуце ў час экзаменацыйнай сесіі нехта са студэнтаў прымацаваў да сцяны выдраны з часопіса партрэт старой жанчыны, твар якой нібы ўвасабляў само чалавечае гора. Надпіс пад здымкам апавядаў, што гэта смаленская сялянка, шасцёра дзяцей якой у час акупацыі забілі гітлераўцы. Дамарошчаны жартаўнік заклеіў гэты надпіс і напісаў сваё — што жанчына плача з-за дрэннай адзнакі, якую атрымала на экзаменах.

Уся група глядзела на партрэт і рагатала. Калі мы гаварылі пра гэтае кашчунства з куратарам курса, яна толькі паціснула плячыма.

— Група здае экзамены няблага. У нас да іх прэтэнзій няма.

Сярод тых экзаменаў не было, вядома, экзамена на душэўную сталасць, на маральную дасканаласць і таму, відаць, гэтыя матэрыі не хвалявалі куратара...

КАЛЕГІ Яўгенія Мікалаевіча Уварава, асістэнта кафедры фізікі машынабудаўнічага профілю, спачатку былі схільны прадставіць усё, што здарылася, як трагічны збег акалічнасцей, трагічную выпадковасць. Ну, скажам, пераходзіў чалавек вуліцу, паслізнуўся і трапіў пад трамвай. Каб той трамвай ды на мінуту спазніўся...

Ён лічыўся вельмі здольным фізікам. Калі ў 1966 годзе пасля заканчэння Ленінградскага электратэхнічнага інстытута прыехаў у БПІ, не маглі ім нацешыцца.

— У Яўгенія Мікалаевіча выразна выяўлялася схільнасць да навуковай работы, — сказаў нам парторг кафедры Леанід Адамавіч Путан. Напрыклад, ён прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы трох тэм у галіне электрычнай эрозіі металаў.

Да нашай гутаркі ўважліва прыслухоўваюцца іншыя супрацоўнікі кафедры.

— Яго вельмі любілі студэнты, — устаўляе нехта.— Умеў цікава падаць прадмет...

Мы просім растлумачыць крыху дзіўную, на наш погляд, характарыстыку Уварава, якую прадставіла следчым органам кіраўніцтва інстытута: «...За час работы Увараў Я. М. праявіў сябе прадавітым супрацоўнікам, які добрасумленна ставіўся да сваіх абавязкаў. У маі 1972 года Увараў прапусціў без уважлівых прычын вучэбныя заняткі, за што яму была аб'яўлена строгая вымова».

Усе маўчаць. І раптам хтосьці ўзрываецца:

— Ды што грахі хаваць, піў Увараў, ды моцна піў, асабліва ў апошні час.

— Так, — згаджаецца Л. Путан, — нешта з ім рабілася незразумелае. То быў чалавек улюбёны ў справу, а то страціў да ўсяго цікавасць, пачаў закладваць за каўнер. Яго і міліцыя аднойчы п'янага затрымала. Але не думайце, што мы з ім не гутарылі. Гутарылі, і не раз. Нават папярэдзілі, што калі не кіне піць, дык будзе звольнены з работы. Абяцаў...

Усе на кафедры помняць навуковыя даследаванні Уварава ў галіне электрычнай эрозіі металаў. Ды ніхто ў час не заўважыў эрозіі, якая падтачыла самога даследчыка. Мабыць, калегі Уварава прывыклі давяраць толькі прыборам, але ж, каб добра зразумець чалавека, патрэбны не прыбор — проста чулае, зацікаўленае сэрца.

Зараз кіраўнікі кафедры клянуць сябе за тое, што паслалі Уварава ў вёску на чале групы студэнтаў. Хаця тут жа апраўдваюцца, што была нявыкрутка, не хапала выкладчыкаў.

Выкладчык — гэта яшчэ не абавязкова выхавацель. Які з Уварава выхавацель, было ўсім ясна. Ды тут спрацавала адвечнае — «э, якнебудзь абыдзецца».

На гэты раз не абышлося...

ВЫЯЗНАЯ сесія судовай калегіі па крымінальных справах Мінскага абласнога суда прыгаварыла М. Кляшчонка да 13 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Аспрэчваць справядлівасць прыгавору няма, вядома, ніякіх падстаў. І ўсё ж, як нам здаецца, не ўсе акцэнты ў час судовага разбірацельства былі расстаўлены правільна. Суд усю ўвагу сканцэнтраваў на асобе злачынцы, хаця справа вымагала, каб ён выказаў свае адносіны і да іншых удзельнікаў гэтай крымінальнай гісторыі, удзельнікаў прамых і ўскосных. На жаль, гэтага не адбылося.

**У. ГРЫБАЎ,**
старшы саветнік юстыцыі.

**М. ЗАМСКІ,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

# БАЛГАРСКІ ФІЛЬМ—1972

*1972 год можна назваць адным з найбольш плённых у развіцці балгарскага кіно. Цэлы шэраг фільмаў — мастацкіх («Казіны рог» і «Стракаты свет»), кароткаметражных і мультыплікацыйных («Да горада», «Спіральны рост крышталяў» і «Разумнае сяло») былі адзначаны на міжнародных фестывалях у Карлавых Варах, Аберхаўзене, Лакарна, Пардубіцы і г. д. На кінафестывалі ў Паname выканаўца галоўнай ролі ў фільме «Казіны рог» актрыса Каця Паскалева атрымала прэмію за лепшае выкананне жаночай ролі. Акрамя таго, на Тыднях балгарскага фільма, якія праводзіліся ў Маскве, Капенгагене, Луке (Італія), Тамперэ (Фінляндыя), у Бельгіі, Чылі і іншых краінах, дзякуючы добраму падбору фільмаў, балгарскае кінамастацтва набыло многа новых прыхільнікаў. Поспехі і папулярнасць кінапрадукцыі мінулага года можна абагуліць мовай лічбаў: за граніцу прададзена 63 мастацкія і 204 кароткаметражныя фільмы, а «Казіны рог» (рэжысёр Мяфодзій Андонаў) дэманстраваўся і ў тых краінах, якія ўпершыню пазнаёміліся з балгарскім кінамастацтвам.*

*Найбольш значным творам 1972 года — года, звязанага для балгарскага народа са святкаваннем 90-годдзя з дня нараджэння Георгія Дзімітрава, — быў фільм «Накавальня або молат» (рэжысёр Хрыста Хрыстаў). Створаны ў адпаведнасці з патрабаваннямі палітычнага кіно, гэты фільм вызначаецца праўдзівасцю гістарычных абставін, сваёй публіцыстычнасцю, значнасцю вобраза Георгія Дзімітрава ў выкананні народнага артыста Стэфана Гецава.*

*У вобласці гістарычнага жанру заслугоўвае ўвагі фільм «Казіны рог» адзначаны спецыяльным прызам журы ў Карлавых Варах. Фільм вызначаецца высокім прафесійным узроўнем рэжысёрскай і акцёрскай работы.*

*Гісторыка-рэвалюцыйная накіраванасць уласціва фільму рэжысёраў Ірыны Акташавай і Хрыста Піскова «Як песня». Хвалюючая атмасфера першых дзён пасля народнай перамогі 9 верасня 1944 года, зачараванне і наіўнасць маладосці стаяць у цэнтры гэтага кінатвора. Малады акцёр Філіп Трыфанаў, які выконвае галоўную ролю, — шчаслівае адкрыццё балгарскага кіно 1972 года.*

*Сучаснай тэматыцы прысвечаны два іншыя фільмы — «Хлопчыкі адыходзяць» і «Каханне». Першы (рэжысёр Людміл Кіркаў) — непрэтэнцыёзнае апавяданне аб моладзі, якая пераступае парог жыцця і сутыкаецца з першымі яго цяжкасцямі. У галоўнай ролі — зноў жа Філіп Трыфанаў. У фільме «Каханне» (рэжысёр Людміл Стайкаў) тэма моладзі раскрываецца праз прызму маральных каштоўнасцей ў жыцці.*

*На жаль, кароткаметражныя (навукова-папулярныя і дакументальныя) фільмы, за невялікім выключэннем, не перайшлі сярэдняга ўзроўню. Але затое мультыплікацыйныя стужкі зноў пацвердзілі свой ужо дасягнуты высокі ўзровень.*

*Самым удалым творам 1972 года быў прызнаны фільм Даньо Данева «Разумнае сяло» — своеасаблівы алегарычны твор аб чалавечым жыцці.*

**Уладзімір МІХАЙЛАЎ.**
**(Сафія-прэс).**

# ТЭАТР І ФІЛАТЭЛІЯ

*Тэатр — адна з улюбёных тэм арганізатараў філатэлістычных выставак. Многія выпускі марак у розных краінах прысвечаны тэатру — антычнаму, класічнаму або сучаснаму, стваральнікам опернага рэпертуару, выдатным артыстам і да т. п. Напрыклад, сёлета ў сувязі са стагоддзем з дня нараджэння вядомага нямецкага рэжысёра, акцёра і тэатральнага дзеяча Макса Рэйнхарта Аўстрыя прадугледжвае спецыяльны выпуск маркі з яго барэльефам.*

*Службы паштовай сувязі рэгулярна адзначаюць знамянальныя даты гісторыі тэатра. Іспанія, напрыклад, прысвяціла спецыяльны выпуск 125-годдзю стварэння тэатра Лісео ў Барселоне, Данія — стварэнню дацкага Нацыянальнага тэатра, у якім у 1722 годзе ва ўрачыстай абстаноўцы адкрыцця была пастаўлена камедыя Мальера «Сквапны» ў перакладзе на дацкую мову.*

**Навіны ЮНЕСКА.**









Фрагменты алтара ў Ксёнжніцы.

# Віт Ствош?..

**НЕЯК у канцы саракавых гадоў у касцёл у гарадку Стшэльна зайшоў мужчына і папрасіў ксяндза дазволіць яму агледзець адну з калон. Ён хацеў зняць вонкавы пласт, паколькі, паводле яго слоў, у яго былі ўсе падставы меркаваць, што калона пакрыта багатай разьбой. Ксёндз доўга не згаджаўся, але ўрэшце дазволіў парушыць калону. Яе сапраўды пакрывала цудоўная раманская разьба, якая не мае сабе роўнай у Польшчы.**

**Здзіслаў Кемпінскі з Пазнані, які зрабіў выдатнае адкрыццё ў Стшэльна, цяпер рэктар Пазнанскага універсітэта, у жніўні 1971 года зноў прапанаваў цікавую гіпотэзу. Неўзабаве выйдзе ў свет яго кніга, у якой прафесар на падставе гістарычнага матэрыялу даказвае, што стваральнікам гатычнага паліптыху ў вёсцы Ксёнжніцы Вельке, паблізу Кракава, быў сам Віт Ствош.**

**Ці мог разьбяр Віт Ствош распісаць цэнтральную частку алтара ў Ксёнжніцах? Ствош быў буйнейшым прадстаўніком позняй готыкі, выдатным майстрам фігуральнай скульптуры. У Польшчы ён пражыў 20 гадоў. У Кракаве ім створаны выдатны алтар у Марыяцкім касцёле і магільня Казімежа Ягелончыка ў Вавельскім кафедральным саборы — твор, які займае ў познегатычнай скульптуры выключнае месца. Калі дапусціць, што Віт Ствош займаўся таксама і жывапісам, а магчымасць такога меркавання цалкам апраўдана, тэарэтычна ён мог быць аўтарам алтара.**

**Якія галоўныя аргументы прафесара Кемпінскага? Па-першае, у ходзе фармальнага аналізу ён стараўся даказаць, што стваральнікам алтара мог быць толькі вялікі мастак. Гэта абгрунтоўвае яго гіпотэзу, таму што паводле наяўных дадзеных, у пятнаццатым стагоддзі ў Польшчы не было іншага такога ж таленавітага мастака. Далей прафесар указвае на тэматычнае падабенства фігур ксёнжніцкага алтара да многіх фігур, створаных Вітам Ствошам раней. Вядома, гэты аргумент лёгка абвергнуць, таму што Віта Ствоша мог пераймаць усякі іншы мастак. Аднак прафесар даказаў, што фігуры алтара настолькі падобныя на пазнейшыя работы Ствоша, што ў некаторых выпадках мы можам нават гаварыць аб іх ідэнтычнасці. Ствош, як і некаторыя іншыя вялікія майстры перыяду позняй готыкі, склаў для сябе каталог персанажаў, з якога браў узоры для сваіх чарговых работ. Хто ж, калі не ён сам, мог быць тым вялікім невядомым мастаком другой паловы XV стагоддзя, які карыстаўся ўзорамі з каталога фігур Віта Ствоша?**

**Контраргументаў шмат. Гіпотэза прафесара Кемпінскага самая спрэчная ў польскім мастацтвазнаўстве апошніх дзесяцігоддзяў. Алтаром у Ксёнжніцы зацікавіліся мастацтвазнаўцы і выдаўцы. Прафесар атрымаў прапанову выдаць свае работы пра Віта Ствоша ў Савецкім Саюзе і ў ФРГ. У яго кнігу «Віт Ствош — поўны збор твораў» увойдуць таксама многія іншыя матэрыялы, якія пральюць новае святло на творчасць вялікага майстра перыяду позняй готыкі.**

«ПОЛЬСКІ АГЛЯД».

# ПАДАРУНАК ЕГІПТА

За дапамогу, аказаную Францыяй Егіпту ў справе выратавання нубійскіх помнікаў, урад Егіпта падарыў Францыі бюст з ружовага пясчаніка, які некалі вянчаў гіганцкую статую фараона Амянофіса IV; статуя ўпрыгожвала перыстыль храма, узведзенага фараонам на ўсход ад Карнака. Падарунак егіпецкага ўрада з'яўляецца адным з найбольш характэрных узораў «новай школы» ў мастацтве старадаўняга Егіпта, якая склалася пад непасрэдным кіраўніцтвам самога фараона Амянофіса IV.

Стараючыся наблізіцца да жывой мадэлі, пазбягаючы выпрацаванай тысячагоддзямі стылізацыі, мастакі гэтай школы спрабавалі паказаць унутраны свет чалавека, яго непаўторную індывідуальнасць. Новы павеў па-мастацку ўвасобіўся ў статуі Амянофіса IV. У ім адлюстравана сутнасць праведзенай фараонам рэлігійнай рэформы, якая замяніла культ бога Амона пакланеннем крыніцы жыцця Атону ў вобразе фараона—бога і разам з тым чалавека. Ніколі яшчэ пры раскопках участка на ўсход ад Карнака не знаходзілі статуі такой выразнай сілы і складанасці задумы.

Ніводны музей свету, за выключэннем егіпецкіх, не мог набыць твор мастацтва такой каштоўнасці. Падарунак егіпецкага ўрада Луўрскаму музею — сведчанне салідарнасці і супрацоўніцтва народаў у справе выратавання мастацкіх каштоўнасцей сусветнага значэння.

**Навіны ЮНЕСКА.**

*НІ ДАЦЬ, НІ ЎЗЯЦЬ!*




Малады пісьменнік Міхась Сціплікаў журботна паглядзеў на абгрызены ім аловак. У яго вачах была пакута.

— Хаця б адна фабула, ну, хаця б адна фабула! — жаласна прастагнаў ён. — Вось Гогалю было добра! Захацелася яму стварыць вялікі твор — і, калі ласка, Пушкін падказвае яму напісаць «Мёртвыя душы»! Як тут не станеш вялікім! А мне хаця б хто сюжэт для невялікага апавядання падказаў!

Раптам твар яго засвяціўся.

— Што ж, калі нішто не прыходзіць у галаву, трэба пісаць пра сябе. Столькі ж твораў напісана ад першай асобы! Ды, урэшце, калі давядзецца мемуары пісаць, паспрабуй тады, успомні, што з табой было паўсотні гадоў назад! Ці не лепей пачынаць цяпер?

Міхась узяў вялізны, як альбом, сшытак і славянскай вяззю вывеў: «М. Сціплікаў. Пра сябе з дасціпнасцю. Мемуары».

«Маё духоўнае развіццё ў дзяцінстве было такім бурным, што перагнала развіццё фізічнае, і я ўвесь час чуў словы пра маё ненармальна хуткае развіццё. Калі я аднойчы, застаўшыся адзін у пакоі, размаляваў падлогу і сцены рознымі фарбамі, то бацька, было, схапіўся за рамень, каб выплаціць мне першы ганарар, але маці заступілася:

— Дзіця, можа, цягнецца да хараства, у свет цудоўнага, а ты хочаш загубіць гэтае імкненне. Лепей купіў бы яму фарбы і мальберт, няхай малюе.

Два дні я хадзіў малым геніем накшталт Пікасо ці Мадзільяні, а на трэці дзень бацькі ніяк не змаглі знайсці ні фарбаў, ні мальберта.

Я заставаўся звычайным хлопчыкам, пакуль не закахаўся ў суседаву дачку Танечку. Пачатак кахання быў адзначаны вершам, бо сярод вучняў лічылася, што каханне без вершаў — глупства, як і вершы без кахання. На жаль, вершы мае да каханай трапіць не паспелі — іх перахапіў бацька.

— Гэта ў пятым класе і — каханне! Я гэтае дурноцце выб'ю з тваёй галавы! — закрычаў ён, распярэзваючыся.

Але і на гэты раз мяне выручыла маці.

— Дзіця праяўляе здольнасці да паэзіі, а ён хоча яго біць за гэта!

Але ў літаратуру шлях мой быў нялёгкі. Ледзь толькі я кідаў заняткі літаратурай, бацька з маці пачыналі мяне ўшчуваць. Як толькі ролю выхавацеляў перанялі крытыкі, яны, наадварот, ушчувалі мяне тады, калі я браўся за творчасць.

І вось, нарэшце, калі мы неяк сядзелі ў кафэ з паэтам Веліканавым і выбіралі віно, ён, між іншым, сказаў:

— А ў цябе, Сціплікаў, добры густ!

А пад Новы год былая наша суседка, паэтэса Дробкіна, пляснуўшы ў далоні, усклікнула:

— Міша, ды вы ж ужо зусім вялікі!»

Сціплікаў загарнуў свой сшытак-альбом і ўздыхнуў з палёгкай. Пачатак аповесці пра час і пра сябе быў пакладзены.

---

**Амелька СКУЛА**

# АД ПАНЯДЗЕЛКА ДА ПАНЯДЗЕЛКА

Яўген Крупенька. «Нядзеля». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1972.
Іван Бурсаў. «Серада». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1973.
Рыгор Семашкевіч. «Субота». Выдавецтва «Мастацкая літаратура». З плана 1973 года.

**Вазіў Пегас вазы з кудзеляй,**
**Рубіў паэт жыццё з пляча.**
**Ён кніжцы назву даў «Нядзеля».**
**І супакоіў чытача**

**Была б для аўтара работа,**
**Як дулі запіваць вадой...**
**Адзін нарок свой твор «Суботай»,**
**Другі празрыста — «Серадой».**

**Сем дзён у тыдні — вось задача!**
**Разгубленасць у стане муз.**
**Рэдактар выдавецтва плача:**
**«Хай назвы дзеліць прафсаюз!»**

**Склікаюць сходы без гаворак,**
**Даюць аб'явы напавер:**
**«Змяню на пятніцу — аўторак,**
**А панядзелак — на чацвер».**

**Не тузайце ідэю мелка,**
**Які млынар — такі ўмалот.**
**Няшчасці ўсе ад панядзелка —**
**Як зацвярджалі план на год.**

---

**Алесь БАЖКО**

# СУБАРДЫНАЦЫЯ

**Скажу па шчырасці: не веру я таму,**
**Хто нам з былога пыху прывалок.**
**Я аднаго такога закрануў,**
**Трымціць у крэсле, як пусты жбанок,**
**Хоць добра знае, што не мае рацыі.**
**Але спрабуй, паруш субардынацыю...**

. . . . . . . . . . . . . .

**Я гэты верш хацеў аддаць у друк,**
**Ды раптам бацька сшытак вырваў**
**з рук:**
**«Субардынацыя... А хто яго падняў!**
**Жбанкі няхай красуюцца на плоце.**
**Для задавак і гэта вышыня.**
**Мы пра людзей мяркуем па**
**рабоце...»**




---

**Павел ШЫБУТ**

# ШРАЦІНКІ

Ловячы муху, згубіў слана.

Сярод аслоў каню цяжка.

Хоць быў і невысокага палёту, але ўсе гаварылі: «Добрая птушка!».

---

**Рыгор БОХАН**

# АПІСКІ САМАПІСКІ

- **Госць упоперак горла.**
- **Меню-раскрадка.**
- **Менш аслоў—больш справы.**
- **Спісаная прыгажуня.**
- **Удзёрся ў давер.**
- **Вызкачыўся на полі пітвы.**

---

**Рыгор ЯЎСЕЕЎ**

# УРОК

*Піліп Свірыдавіч Гурок*
*Багаты вопыт мае...*
*Ён пераемніку урок*
*Па шчырасці чытае.*

*— Пячатка, крэсла, стол і сейф*
*Ды кабінет прасторны,*
*Цяпер ты паўнапраўны шэф,*
*Жадаю працы спорнай!*

*Ці ты лагодны, ці круты,*
*Не вельмі, брат, заносся,*
*А што гаворыць калектыў —*
*Сячы на пераносці.*

*Не злуй на крытыку, калі*
*Там горкай праўды мора...*
*А завядзецца падхалім,*
*Дык секані пад корань.*

*Каб справу туга разумеў,*
*Ды быў заўсёды кемны...*
*Каб ты, як я, не загрымеў,*
*Шаноўны пераемнік.*

---




*ГУМАРЭСКА*

**Р**АЗМОВА не клеілася. У гэтай суполцы я пачуваў сябе проста лішнім. Як бедны сваяк усё роўна.

— Дарэчы, колькі вы зарабляеце? — спытаў дзядок у залатых акулярах.

— Сто трыццаць... і ганарар... Бывае, за месяц дзвесце назбіраецца, — з гонарам адказаў я.

Прысутныя саркастычна закашлялі.

— Брава! — папляскаў у далоні дзядок. — І дзеля гэтых капеек вы пяць гадоў праціралі штаны ва універсітэце?..

— Э-э... шэсць — я завочнік...

— Парадокс эпохі! — паківаў галавою дзядок.— Шэсць гадоў — і нічому не навучыўся! Косця, — павярнуўся ён да хлапчыны замежнай мадэлі, — колькі ты паклаў днямі ў «Каўказе»?

— Сем чырвонцаў на стол, а трыццаць прасадзіў у більярд — не шанцавала штосьці...

— Гм... разгуляўся, як рэвізор... Не хвалю за гэта... Ну, зробім скідку на маладосць... кгм... на заганны ўплыў заходняга кінематографа. І ўсё ж,— палец дзядка прыцэліўся ў мяне, — любы мой, чуеце! Так праводзіць свой культурны адпачынак просты бармэн Косця!

— Месяц назад, — уключыўся ў размову меланхалічны юнак з пальцамі піяніста, — я даў банкет на дванаццаць кувертаў у сухумскім рэстаране «Дыяскуры». Фантастыка! Фарэль... кава ў сярэбраных кубках... каньяк з халодным піўком...

— Таксама піжонства,— буркнуў дзядок. — Ах, гэта сучасная моладзь...

— Не, не, Сабасцян Фаміч, я ведаю цану пінёндзам, — паспяшаўся рэабілітавацца аматар экзотыкі.—Абмываў жыгулёўскі «фіят» пасля абкаткі.

— А-а, ну што ж... І доўга ты збіраў на тую бляшанку, Сева?

— Тры гады... Як кажуць, недаядаў у рэстаранах...

— От! — дзядок зноў стрэльнуў у мяне пальцам. — Тры гады — і свае колы, хоць Сева не член Акадэміі мастацтваў, а тэлемайстар. Так, так, просты тэлемайстар, а кэб мае, не параўнаеш з якім маралістам, у якога ў кішэні дыплом, але свішча вецер...

— Я з вамі не зусім згодны, дарагі Сабасцян Фаміч, — падаў голас чалавечак з тварам старавата шымпанзе.— Вышэйшая асвета не зашкодзіць — зразумела, калі ты не зусім дурны, — усе паглядзелі на мяне. — Я свайго нашчадка хацеў прыладкаваць да якога інстытута, шукаў хады-выхады—не атрымалася. А ён тым часам папёр здабываць цюменскую нафту... Рамантык нягоднік Пеця, сябра Васі...

— Недавыхавалі, — асуджальна ўздыхнуў дзядок. — А колькі вы паклалі на гэты варыянт з вэнэу?

Энтузіяст вышэйшай асветы насцярожана лыпнуў у мой бок.

— Э, што там ужо! — махнуў рукою Сабасцян Фаміч.

— Тысяч трыццаць на старыя, звычайна, мог бы наскрэбсці. Я і дасюль на старыя лічу...

— Але ж ваша пасада... — не ўтрымаўся я.

— Так, я сціплы ацэншчык камісійнага магазіна, — з гонарам адказаў недавыхавальнік.

— І ваша зарплата...

— Пры чым тут зарплата, стаўка, аклад! — ускіпеў дзядок. — Трэба ўмець жыць, быць творцам свайго індывідуальнага шчасця! Я ж таксама не лаўрэат, усё жыццё на базе кручуся...

— А паглядзелі б вы на дачу Сабасцяна Фаміча! — летуценна падкаціў вочы пад лоб Сева.— Версаль!

— Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага! — кінуў афарызм Косця.

— Эт, хіба ён зразумее! — дадаў дырэктар магазіна гародніны Хаам. — Праведнік... схімнік... адвентыст трынаццатай зарплаты... З усімі сваімі артыкульчыкамі ён не варты паўцаны майго самага горшага пярсцёнка!

— Жлоб, пардон за прабачэнне, — ён і ёсць жлоб! — закончыў Косця.

— Мы вас не трымаем! — рыкнула ў жываце у дзядка — не лаўрэата, і ён паказаў мне на дзверы.

У гэты момант дзверы адчыніліся і ўвайшоў падцягнуты чалавек з акуратна падстрыжанаю бародкаю.

— Ну-с, ваш візіт зацягнуўся, — сказаў ён мне. — Усяго найлепшага, таварыш карэспандэнт! — і барадач павярнуўся да суполкі: — Грамадзяне, рухайцеся за мною!

— Слухаем, грамадзянін следчы! — хорам адказалі яны.

Пераклаў з украінскай П. МІСЬКО.

---

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 05528

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Х. Д. ЖЫЧКА.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, Ю. П. ГРЫГОР'ЕЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Л. Я. ПРОКША, Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.